• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

4 мая 1996 г. субота, № 112 (22915)

# ЗВЯЗДА



*НАДЗЁННАЕ*

## «ЦЭНЫ НА ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ ПАВЫСЯЦЦА, АЛЕ ТОЛЬКІ Ў КАНЦЫ ГОДА»

Спрэчкі вакол прапанаванага Мінжылкамгасам павелічэння дзеючых тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі з пачатку мая гэтага года, падобна, дасягнулі кульмінацыі. Як бачым, май ужо наступіў, а тарыфы засталіся тымі ж.

Карэспандэнт «Звязды», зразумела, пацікавіўся, чым выклікана такое рашэнне і на які тэрмін можна разлічваць, плануючы свае выдаткі на жыллё?

Па словах спецыяліста эканамічнага ўпраўлення апарату Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Казака, пытанне аб павелічэнні платы за жыллё разглядалася на нарадзе ў прэм'ер-міністра РБ Міхаіла Чыгіра.

У выніку абмеркавання было прынята рашэнне, улічваючы стабільную дынаміку цэн у краіне, не праводзіць павышэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі ў бліжэйшы час. Гэтае рашэнне было прадыктавана і адсутнасцю ўмоў для павелічэння даходаў насельніцтва ў сувязі з намечанай зменай тарыфаў.

Кошт жыллёвых паслуг у асноўным залежыць ад цаны паліва, якое затрачваецца на вытворчасць цеплаэнергіі. І калі ў краіне не назіраюцца змены ў цане на энерганосьбіты, значыць, пакуль няма і вострай неабходнасці павялічваць тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі.

Па ацэнцы Камітэта цэн Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь, у апошні час сабекошт асноўных відаў жыллёва-камунальных паслуг стабілізаваўся і цяпер адсутнічаюць аб'ектыўныя фактары яго павелічэння. Аднак у рэспубліцы намячаецца пераход да функцыянавання жыллёва-камунальнай гаспадаркі на аснове самаакупнасці шляхам павышэння ўзроўню кампенсацыі насельніцтвам выдаткаў на ўтрыманне жылля і аплату камунальных паслуг і ўжо ў гэтым годзе долю кампенсацыі мяркуецца давесці да 80 працэнтаў.

На думку старшыні Камітэта цэн Аляксандра Грэцкага, асноўнай праблемай гэтага пераходу з'яўляецца адсутнасць рэальнага механізма фінансавай падтрымкі малазабяспечаных груп насельніцтва ва ўмовах павышэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі.

З вышэйсказанага можна зрабіць адну выснову: цэны на жыллёвыя паслугі ў гэтым годзе будуць павышацца. А вось пытанне — калі і як — застаецца адкрытым.

**P. S.** калі матэрыял ужо вярстаўся ў нумар, тэлефон аддзела рэдакцыі распаліўся ад званкоў нашых чытачоў. Спасылаючыся на некаторыя сродкі масавай інфармацыі, якія прадракаюць ужо ў бліжэйшы час павышэнне платы за жыллё, падпісчыкі «Звязды» з болем у голасе пытаюць: будзе гэтае павышэнне ці не? Спецыяльны карэспандэнт «Звязды» зноў звязаўся па тэлефоне з прадстаўніком апарату Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Казаком.

Вячаслаў Адамавіч адказна заверыў, што ўрадам краіны прынята рашэнне ў бліжэйшыя месяцы тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі не ўздымаць. У той час, калі ў краіне намецілася падзенне росту спажывецкіх цэн (студзень — 5,6 працэнта, люты — 4 працэнты, сакавік — 2 працэнты, на 24 красавіка — 0,9 працэнта), павышэнне жыллёвых тарыфаў прывяло б да рэзкага скачка інфляцыі (на 3 працэнты) у рэспубліцы.

На думку В. Казака, каб павялічыць плату за жыллё, краіна павінна мець значны грашовы капітал, каб кампенсаваць павышэнне тарыфаў маламаёмным грамадзянам. Сродкаў на гэты артыкул выдаткаў у бюджэце рэспублікі проста няма. «Цэны на жыллёва-камунальныя паслугі павысяцца, але толькі ў канцы года. Тады, калі будуць праведзены папярэднія мерапрыемствы па кампенсацыі, калі будуць сабраны дастатковыя сродкі для правядзення бязбольнага пераходу жыллёва-камунальнай гаспадаркі на самаакупнасць», — сказаў на заканчэнне спадар Казак.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
## № 157
## АБ МЕРАХ ПА ЎПАРАДКАВАННЮ БАНКАЎСКАЙ І ІНШАЙ ФІНАНСАВАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

У мэтах удасканалення рэгулявання банкаўскай дзейнасці, умацавання фінансавай сістэмы, забеспячэння палітычнай і эканамічнай стабільнасці, абароны правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь і зыходзячы з таго, што:

у выніку непаслядоўнай фінансавай палітыкі, якая праводзілася Нацыянальным банкам, аслаблена роля дзяржавы ў рэгуляванні банкаўскай сістэмы;

многім грамадзянам Рэспублікі Беларусь нанесены ўрон незаконнай дзейнасцю суб'ектаў гаспадарання, якія прыцягвалі грашовыя сродкі без адпаведных ліцэнзій, шляхам падману, заключэння ўяўных і прытворных здзелак, а таксама іншымі неправавымі метадамі;

у заканадаўстве Рэспублікі Беларусь фінансавая дзейнасць не мае дакладнай і ўсебаковай рэгламентацыі;

дзяржаўныя органы не прымаюць належных мераў па спыненню фінансавых правапарушэнняў;

сродкі масавай інфармацыі дапускаюць распаўсюджванне рэкламы суб'ектаў гаспадарання, якія ажыццяўляюць незаконныя фінансавыя аперацыі,

**пастанаўляю:**

1. Да прыняцця Банкаўскага кодэкса і іншых законаў Рэспублікі Беларусь, што рэгулююць дзейнасць банкаў і нябанкаўскіх фінансавых арганізацый, і прывядзення ў адпаведнасць з імі актаў заканадаўства ўстанавіць, што:

на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забараняецца дзейнасць суб'ектаў гаспадарання, якія не з'яўляюцца банкамі, але ажыццяўляюць банкаўскія і іншыя фінансавыя аперацыі, звязаныя з прыцягненнем грашовых сродкаў грамадзян і юрыдычных асоб /далей — нябанкаўскія фінансавыя арганізацыі), без адпаведных ліцэнзій або без згоды Нацыянальнага банка;

для ажыццяўлення банкаўскіх і іншых фінансавых аперацый, звязаных з прыцягненнем грашовых сродкаў грамадзян і юрыдычных асоб, выкарыстоўваюцца карэспандэнцкія рахункі ў Нацыянальным банку;

усе сродкі, атрыманыя ад ажыццяўлення банкаўскіх і іншых фінансавых аперацый без захавання патрабаванняў, выкладзеных у абзацах другім і трэцім гэтага пункта, па рашэнню судовых органаў канфіскоўваюцца ў даход дзяржавы;

маёмасць, канфіскаваная ў даход дзяржавы ў выпадках, прадугледжаных гэтым Указам, накіроўваецца на кампенсацыю ўрону, нанесенага грамадзянам Рэспублікі Беларусь незаконнай фінансавай дзейнасцю, у парадку, які ўстанаўліваецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

за ажыццяўленне фінансавай дзейнасці без адпаведнай ліцэнзіі або без згоды Нацыянальнага банка ці з іншымі парушэннямі заканадаўства накладаецца штраф на грамадзян у памеры ад 10 да 30 мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад 20 да 100 мінімальных заработных плат. За тыя ж парушэнні, што нанеслі буйны ўрон маёмасці грамадзян або дзяржаве, якія мелі сістэматычны характар, а таксама ўчыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення названых мераў адміністрацыйнага спагнання, накладаецца штраф на грамадзян у памеры ад 30 да 150 мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад 50 да 200 мінімальных заработных плат. Накладанне штрафу праводзіцца па рашэнню Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага банка і Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь;

нябанкаўскія фінансавыя арганізацыі прадстаўляюць у дзяржаўныя падатковыя інспекцыі аўдытарскія заключэнні аб дакладнасці гадавых бухгалтарскіх справаздач.

2. Дзяржаўным органам у парадку, установленым заканадаўствам, забяспечваць:

неадкладнае спыненне фінансавых аперацый, не дазволеных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, і прыцягненне да адказнасці асоб, вінаватых у іх ажыццяўленні;

прызнанне ва ўстаноўленым парадку несапраўднымі звязаных з прыцягненнем грашовых сродкаў здзелак, што не адпавядаюць патрабаванням заканадаўства і ажыццёўлены з мэтай, якая супярэчыць інтарэсам дзяржавы, ажыццёўлены пад уплывам памылковай думкі, падману, зламыснага пагаднення, а таксама ўяўных і прытворных здзелак.

3. Нацыянальнаму банку, Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь пры ўдзеле Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь да 1 ліпеня 1996 г. завяршыць падрыхтоўку праекта Банкаўскага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

4.1. Сумесна з Нацыянальным банкам:

да 1 чэрвеня 1996 г. зацвердзіць часовае палажэнне аб нябанкаўскіх фінансавых арганізацыях, у якім прадугледзець асаблівасці іх дзяржаўнай рэгістрацыі, а таксама стварэнне гэтымі арганізацыямі абавязковых рэзервовых фондаў і абавязковае страхаванне імі ўкладаў грамадзян;

у месячны тэрмін прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб узмацненні адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці за парушэнне заканадаўства ў галіне фінансаў і аб кампенсацыі ўрону, нанесенага грамадзянам незаконнай фінансавай дзейнасцю;

забяспечваць аператыўнае інфармаванне органаў дзяржаўнага кантролю і праваахоўных органаў аб фактах прыцягнення суб'ектамі гаспадарання грашовых сродкаў грамадзян і юрыдычных асоб;

у 2-месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб парадку абслугоўвання банкамі дзяржаўных праграм, вызначыўшы ў ім умовы заключэння паміж дзяржаўнымі органамі і банкамі дагавораў аб крэдытным і іншым абслугоўванні гэтых праграм;

прымаць меры па прадухіленню банкруцтва банкаў, якія ажыццяўляюць абслугоўванне дзяржаўных праграм;

4.2. Да 1 ліпеня 1996 г. прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб стварэнні холдынгу, які валодае акцыямі Рэспублікі Беларусь у банках, што абслугоўваюць дзяржаўныя праграмы.

5. Нацыянальнаму банку:

сумесна з Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь пачынаючы з 1996 года ажыццявіць комплексную праграму развіцця банкаўскай сістэмы і нябанкаўскіх фінансавых арганізацый, якая забяспечвала б умацаванне фінансавага стану і абмежаванне рызыкі банкаў і нябанкаўскіх фінансавых арганізацый, усебаковыя дзяржаўныя гарантыі пры ажыццяўленні банкаўскіх аперацый;

да 15 чэрвеня 1996 г. распрацаваць і зацвердзіць парадак выдачы ліцэнзій або дачы згоды нябанкаўскім фінансавым арганізацыям на ажыццяўленне банкаўскіх і іншых фінансавых аперацый, звязаных з прыцягненнем грашовых сродкаў грамадзян і юрыдычных асоб;

забяспечыць спыненне банкамі аперацый па рахунках кліентаў, якія ажыццяўляюць фінансавую дзейнасць з парушэннем патрабаванняў заканадаўства;

установіць кантроль за выкарыстаннем нябанкаўскімі фінансавымі арганізацыямі прыцягненых грашовых сродкаў грамадзян і юрыдычных асоб, што знаходзяцца на карэспандэнцкіх рахунках.

6. Службе кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзяржаўным падатковым інспекцыям, іншым упаўнаважаным дзяржаўным органам:

узмацніць кантроль за выкананнем суб'ектамі гаспадарання патрабаванняў заканадаўства пры ажыццяўленні банкаўскіх і іншых фінансавых аперацый;

у выпадках парушэння юрыдычнымі і фізічнымі асобамі заканадаўства, у тым ліку ажыццяўлення імі банкаўскіх і іншых фінансавых аперацый, звязаных з прыцягненнем грашовых сродкаў грамадзян і юрыдычных асоб, без неабходных ліцнзій або (і) без згоды Нацыянальнага банка, ва ўстаноўленым парадку прымяняць да парушальнікаў меры адказнасці, а таксама ў 3-дзённы тэрмін інфармаваць аб парушэннях органы, што зарэгістравалі адпаведную юрыдычную асобу або прадпрымальніка, які ажыццяўляе сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы.

7. Дзяржаўнаму камітэту па друку, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі не дапускаць рэкламавання ў сродках масавай інфармацыі суб'ектаў гаспадарання, якія не маюць ліцэнзій або згоды Нацыянальнага банка на ажыццяўленне банкаўскіх і іншых фінансавых аперацый.

Вінаватыя ў парушэнні гэтага патрабавання нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам аб рэкламнай дзейнасці.

8. Нябанкаўскім фінансавым арганізацыям да 1 ліпеня 1996 г.:

ва ўстаноўленым парадку атрымаць ліцэнзіі або згоду Нацыянальнага банка на ажыццяўленне банкаўскіх і іншых фінансавых аперацый;

адкрыць у Нацыянальным банку карэспандэнцкія рахункі.

9. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

2 мая 1996 г. г.Мінск.

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПАРЛАМЕНТ ПАВЯЛІЧЫЎСЯ НА ДВА ДЭПУТАТЫ

Учора раздзел «Featureнае» на сесіі Вярхоўнага Савета як заўсёды аказаўся пярэстым. Чатырнаццаць дэпутатаў, якія выступілі з парламенцкай трыбуны, закранаді самыя розныя тэмы. Напрыклад, сп. Грыб прапанаваў парламенту прыняць закон, які б рэгуляваў парадак накіравання нашых вайскоўцаў ды міліцыі за межы рэспублікі для выканання службовых заданняў. На яго думку, паколькі гэтая сфера дагэтуль заканадаўствам не ўрэгулявана, заўсёды будзе існаваць небяспека неправамоцнага выкарыстання нашых вайскоўцаў. З яго довадамі дэпутаты пагадзіліся і ўключылі пытанне ў парадак дня сесіі. У сваю чаргу Валерый Шчукін выступіў з крытыкай кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, якое не прыняло ўдзелу ў апошнім пасяджэнні Канстытуцыйнага суда, дзе разглядалася распараджэнне Прэзідэнта аб невыкананні органамі выканаўчай улады некаторых заключэнняў КС. Ігнараванне работы суда, на думку дэпутата, не робіць гонару Вярхоўнаму Савету.

Але дамінуючай тэмай у «Розным» былі ўсё ж падзеі 26 красавіка. Частка дэпутатаў абуралася дзейнасцю БНФ, іншыя ж заклікалі арганізаваць па гэтай праблеме парламенцкія слуханні. Як вядома, на рабочым пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета было таксама прынята рашэнне прапанаваць дэпутатам унесці ў парадак дня сесіі пытанне аб палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Пазней парламент падтрымае гэтую прапанову, і ўжо вечарам 3 мая з выступлення спікера Сямёна Шарэцкага ў Вярхоўным Савеце пачнецца разгляд гэтага актуальнага пытання. Аднак дэпутаты не пагадзіліся з прапановай фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» аб утварэнні спецыяльнай часовай камісіі дзеля гэтага. Дарэчы, утварыць камісію, якая б разгледзела факты парушэння правоў дэпутатаў у час акцый пратэсту ў Мінску, прапанаваў дэпутат Знавец, але яго прапанова на галасаванне таксама пакуль не была пастаўлена.

Што датычыцца далейшай работы дэпутатаў, то ўчора двойчы на трыбуну выходзіў старшыня Камісіі па мандатах, рэгламенту і дэпутацкай этыцы Анатоль Красуцкі. У першы раз згодна з рашэннем Цэнтрвыбаркома ён прапанаваў прызнаць паўнамоцтвы яшчэ двух дэпутатаў: Алега Гарбунова (Віцебская—Горкаўская в.а. № 61) і Валерыя Драко (Дзяржынская в.а. № 230 г. Мінска). Парламент без спрэчак зацвердзіў іх паўнамоцтвы, павялічыўшы такім чынам колькасць народных выбраннікаў у Вярхоўным Савеце да 199 чалавек.

Крыху пазней А. Красуцкі паведаміў вынікі праверкі падстаў для складання дэпутацкіх паўнамоцтваў тых парламентарыяў, якія не могуць сумяшчаць, згодна з законам, дэпутацкую дзейнасць з выконваемай імі работай. Пытанні ў камісіі ўзніклі толькі адносна спадара Бялова, які нядаўна быў прызначаны ўказам Прэзідэнта на пасаду дырэктара Міжбанкаўскай валютнай біржы. Па словах А. Красуцкага, спачатку трэба вывучыць законнасць гэтага указа, а потым разбірацца з дэпутатам. Да таго ж сам Бялоў заяўляе, што на новую пасаду яшчэ не заступаў і працаваць там не збіраецца.

Парламент учора нарэшце прыняў пастанову адносна становішча ў аграпрамысловым комплексе, над якой дэпутаты біліся не адзін дзень. У чацвер яны нават не захацелі яе абмяркоўваць, а прынялі амаль адразу ў цэлым.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ДЛЯ БЕЛАРУСІ ЗНЕШНІ ФАКТАР НАДЗВЫЧАЙ ВАЖНЫ

**Інтэрв'ю кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта рэспублікі Міхаіла Мясніковіча карэспандэнту БЕЛТА**

— **Міхаіл Уладзіміравіч, мяркуючы па ўсім, Прэзідэнт, яго Адміністрацыя, урад рэспублікі пастаянна ўдасканальваюць стратэгію ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з усімі краінамі свету. А як бы Вы ў цэлым ахарактарызавалі знешнюю палітыку Беларусі?**

— Увогуле вы правільна адзначылі. Да таго ж існаванне ў цэнтры Еўропы стабільнай, эканамічна развітой, дэмакратычнай і незалежнай Рэспублікі Беларусь адпавядае, на маю думку, доўгатэрміновым інтарэсам як нашых бліжэйшых суседзяў, так і ўсяго сусветнага супольніцтва ў цэлым. Наша стратэгія знешнеэканамічнай палітыкі грунтуецца на прынцыпах адкрытасці, імкненні да шырокамаштабнага супрацоўніцтва і міжнароднага падзелу працы, а таксама дасягненні экспартна-імпартнай збалансаванасці эканомікі. Для нас, як вы ведаеце, знешні фактар надзвычай важны. Паколькі гістарычна так складвалася, што мы заўсёды былі арыентаваны на знешнія рынкі. Гэта справядліва як у адносінах да збыту тавараў (больш як палова вырабляемай у рэспубліцы прадукцыі экспартуецца), так і ў забеспячэнні эканомікі паліўна-энергетычнымі і іншымі сыравіннымі рэсурсамі. Акрамя таго, наша эканоміка знаходзіцца на этапе сістэмных і структурных рэформаў і мае патрэбу ў замежным вопыце і прыцягненні фінансавых сродкаў.

У сувязі з гэтым, у поўнай адпаведнасці з аб'ектыўнай неабходнасцю, Беларусь праводзіць паслядоўную палітыку збалансаванага развіцця знешняга гандлю са сваімі партнёрамі як на Усходзе, так і на Захадзе. Прычым ступень такога ўзаемадзеяння і дыверсіфікацыі гандлёвых адносінаў няўхільна ўзрастае. Так, калі доля краін так званага далёкага замежжа ў агульным аб'ёме гандлю рэспублікі яшчэ тры гады таму была крыху большай за 28 працэнтаў, то ў 1995 годзе яна склала ўжо 36 працэнтаў, або 3,3 мільярда долараў ЗША. У параўнанні з папярэднім годам экспарт павялічыўся на 69,4 працэнта, а імпарт больш чым на палову. Да таго ж з краінамі далёкага замежжа дадатнае ў нас і сальда, што дазваляе амаль на трэць кампенсаваць дэфіцыт гандлю з рэспублікамі СНД.

— **Калі я правільна разумею, то найбольш цесныя ў нас эканамічныя сувязі менавіта з тымі краінамі, з якімі развіта дагаворна-прававая база.**

— Назіранне правільнае. Да таго ж рэспубліка зыходзіць з важнасці развіцця эканамічных адносінаў з замежнымі дзяржавамі, у залежнасці ад іх долі ў тавараабароце з Беларуссю і іх патэнцыяльных магчымасцей укладваць капіталы ў нашу эканоміку.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

СКАНДАЛ

# ПАСЛЯ ЗАСУХІ: ДАВАЛЬНІЦКАЕ ЗБОЖЖА АД... НЕІСНУЮЧАЙ ФІРМЫ

Сёлета ў некаторых прагнозах зноў абяцаюць засуху. І таму ёсць сэнс прыгадаць наш нядаўні вопыт, тым больш, што яго падрабязна вывучыла Служба кантролю Прэзідэнта па Гродзенскай вобласці. Такім чынам, 1994 год. Бязлітасная спякота рэзка абмяжоўвае запасы збожжа ў краіне. Кабінет Міністраў выдае пастанову «Аб перапрацоўцы давальніцкай сыравіны на прадпрыемствах харчовай прамысловасці». Гэты дакумент, улічваючы дэфіцыт на нашым унутраным рынку, прадпісвае забяспечыць шырокае прыцягненне давальніцкай сыравіны з-за мяжы. Зрэшты, абласное дзяржаўнае аб'яднанне плодаагароднінnай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці «Гроднаагароднінахарчпром» не чакае ўказанняў са сталіцы, а праяўляе ініцыятыву. Яшчэ 5 студзеня мінулага года, амаль за тры месяцы да вышэйпамянёнай пастановы гродзенцы заключаюць буйны кантракт з ТАА «Руно» Белацаркоўскага раёна Кіеўскай вобласці.

Умовы наступныя: беларусы атрымліваюць 5 тысяч тон давальніцкага жыта і выраблююць з яго спірт. Пры гэтым замежнаму партнёру вяртаецца 35 працэнтаў «моцнай прадукцыі». Кантракт замацоўваецца подпісамі намесніка генеральнага дырэктара аб'яднання І. Курзянкова і шэфа фірмы «Руно» В. Амяльянчука. Усё салідна, з размахам, як гаворыцца, на шырокую нагу. Праўда, адна «нага» невядома куды знікае. Дакладней, яе няма ўвогуле. Справа ў тым, што ўпраўленне падатковых расследаванняў па Кіеўскай вобласці пакуль ніяк не здолее адшукаць у Белацаркоўскім раёне ні гэта «Руно», ні яе начальніка Амяльянчука. Санкцыю на выраб пячаткі гэтай фірме міліцыя не выдавала. Пацікавіліся наконт указанага ў беларуска-украінскім кантракце банку — і тут «ліпа».

У гэтай сувязі зразумела, чаму пры заключэнні здзелкі бакі не называюць краіну, адкуль пацярпеўшая ад засухі Беларусь атрымае збожжа. Так званае «Руно» купляе яго зусім не на Украіне, а ў гаспадарках Брэстчыны, 839 тон жыта «здымаюцца» з адказнага захоўвання на Баранавіцкім камбінаце хлебапрадуктаў і перадаюцца Варанчанскаму спіртзаводу. Такім чынам, праз мытную тэрыторыю нашай краіны збожжа не праходзіць. А значыць, вывезці спірт за межы Беларусі па закону немагчыма без ліцэнзіі Міністэрства знешнеэканамічных сувязей. Аднак калі за камерцыю бяруцца даволі ўплывовыя дзяржаўныя служачыя, можна, аказваецца, абысціся і без ліцэнзіі. З «падачы» аб'яднання «Гроднаагароднінахарчпром» намеснік прэзідэнта канцэрна «Белхарчпром» А. Рубец выдае нарад на водпуск «украінскаму ТАА» 10 тысяч дал этылавага спірту. А гродзенскае аб'яднанне, не марудзячы, прыступае да ажыццяўлення здзелкі. І якая дзіўная шчодрасць праяўляецца ў адносінах да «замежнага партнёра»! Паглядзець кантракт, дык гэта ён павінен заплаціць за дастаўку збожжа для перапрацоўкі. На справе ж улічваецца просьба «фірмы»: калгаснае жыта з Баранавіцкага камбіната хлебапрадуктаў дастаўляюць на Варанчанскі спіртзавод транспартам апошняга. Пры гэтым з украінцаў не бярэцца ні капейкі з 10,4 мільёна рублёў, затрачаных ажно на 172 аўтамабільныя рэйсы. Уражвае і аператыўнасць, з якой выконваецца на спіртзаводзе «міжнародны кантракт». Першую партыю збожжа тут апрыходуюць 27 студзеня, а прадукцыя ў адрас ТАА накіроўваецца на тыдзень... раней. У цэлым за паўгода «фірме» перадаецца 9818 дал спірту рэктыфікаванага, вышэйшай ачысткі. Атрымальнікі, паводле пашпартных даных, грамадзяне Беларусі. Служба кантролю лічыць, што спірт употай рэалізаваны на нашай тэрыторыі. У выніку «замежным прадпрымальнікам» можна падлічваць даходы, а нашай дзяржаве — страты, каля чатырох мільярдаў рублёў.

Гэта «аперацыя», само сабой, абстаўляецца фіктыўнымі паперамі. Скажам, кіраўніцтва спіртзавода прад'яўляе ксеракопіі чыгуначных накладных на пераадрасоўку грузу з Украіны на беларускую станцыю «Жабінка». Але яны не маюць ніякага дачынення да гэтай здзелкі, і да таго ж адсутнічаюць мытныя адзнакі аб перасячэнні збожжам дзяржаўнай мяжы. У сваю чаргу аб'яднанне «Гроднаагароднінахарчпром» запускае ў ход пісьмо з Мінскага завода безалкагольных напояў аб тым, што ТАА «Руно» быццам бы паставіла для перапрацоўкі 7143 дал спірту. Праверылі: летась падобным і не пахла, з афіцыйным запытам наконт гэтай здзелкі на завод ніхто не звяртаўся. Карацей, дакумент сфабрыкаваны асобамі, зацікаўленымі ў поспехах «украінскай фірмы». Дарэчы, з матэрыялаў праверкі завода безалкагольных напояў вынікае, што гэта «Руно» «дзейнічае» па ўсёй краіне. Напрыканцы 1994 года менавіта яно завозіць з Бабруйскага гідролізнага завода каля чатырох тысяч дал спірту. З яго выраблююць і перадаюць «ТАА» прыкладна 200 тысяч бутэлек «Празрыстай»...

Хто канкрэтна стаіць за гэтай «замежнай фірмай» — цяпер разбіраецца пракуратура. Аднак кіраўніцтва «Гроднаагароднінахарчпрома» цесна супрацоўнічала не толькі з гэтым партнёрам. 11 красавіка леташняга года намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання Н. Сапрыкіна заключае кантракт з маладзечанскім ТАА «Русь», каб перапрацаваць на давальніцкіх умовах 2 тысячы тон жыта і вярнуць пастаўшчыку 38 працэнтаў атрыманага спірту.

Цікава, што ў той жа дзень яшчэ адзін намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання І. Курзянкоў падпісвае аналагічны кантракт, але ўжо з маскоўскім індывідуальным прыватным прадпрыемствам «Бомар». Абодва кантракты рэгіструюцца пад аднолькавым нумарам. І гэта не выпадкова. Як высветлілася, першую і другую фірмы прадстаўляюць па сутнасці адны і тыя ж асобы. Генеральны дырэктар маскоўскага «Бомара» А. Бажко — жыхар Маладзечна. Ён жа адначасова шэф маладзечанскага МП «Бомар», старшыня тутэйшага кааператыва «Нарыхтоўшчык» і заснавальнік вышэйпамянёнага ТАА «Русь». Апошняе купляе ў калгасах і на камбікормавым заводзе «Рось» Гродзенскай вобласці 230 тон жыта і аўтатранспартам партнёраў па здзелцы дастаўляе яго на Парэчскі спіртзавод, што ў Дзятлаўскім раёне. Туды ж трапляюць 100 тон жыта і 29 тон ячменю, набытых у гаспадарках Прынёманскага краю расійскім «Бомарам». Да справы падключаюцца намеснікі прэзідэнта канцэрна «Белхарчпром» А. Рубец і П. Чыгірын. Яны выдаюць Парэчскаму спіртзаводу нарад на пастаўку Маладзечанскаму піўзаводу шасці тысяч дал спірту, выробленага з давальніцкай сыравіны ТАА «Русь» і Маскоўскай фірмы «Бомар». Аднак гэтыя дакументы на піўзаводзе не бачаць, паколькі зусім не яму спіртзавод адпускае прадукцыю. 4430 дал спірту спачатку трапляюць да фірмы «Русь « і «Бомара», але маладзечанскага. Затым дэфіцытны тавар ужо ад імя кааператыва «Нарыхтоўшчык» накіроўваецца піўзаводу ў якасці давальніцкай сыравіны. Узамен камерсантам, якія разам з дзяржаўнымі служачымі вось так «папоўнілі» збожжам наш рынак, — «Празрыстая», звыш 200 тысяч бутэлек...

Усё гэта службовыя асобы з «Гроднаагароднінахарчпрома» тлумачаць адсутнасцю нарматыўных дакументаў для работы з давальніцкім збожжам. Адсюль, маўляў, і памылкі. Аднак «памыляюцца» чамусьці даволі мэтанакіравана, заключаючы кантракты не з вытворцамі збожжа, а з камерцыйнымі структурамі, якія займелі на здзелках са спіртам проста каласальныя даходы. І што за гэта? Генеральны дырэктар аб'яднання Т. Зянкевіч на гэтай пасадзе каля года і таму не можа адказваць за ўсе «грахі» сваіх падначаленых. Але ж ёсць матэрыялы праверкі, на іх трэба рэагаваць. Т. Зянкевіч «адрэагаваў» — некаторым асобам аб'яўлены вымовы, а намесніку генеральнага дырэктара І. Курзянкову і спецыялістам з Парэчскага спіртзавода не дасталося нават і гэтага.

Дарэчы, работнікі Службы кантролю пацікавіліся і справамі саўгаса «Гродзенская агароднінная фабрыка», якой яшчэ нядаўна кіраваў Т. Зянкевіч. Аказалася, што пры ім ажыццяўлялася даволі арыгінальная цэнавая палітыка. Напрыклад, у сакавіку мінулага года фабрыка дамаўляецца аб тавараабменнай аперацыі з літоўскай фірмай «Эйа». Тут жа, як кажуць, не адыходзячы ад касы, пачынаецца адгрузка прадукцыі. Праўда, толькі з фабрыкі. Менш чым за месяц яна адпускае замежнаму партнёру звыш 67 тон свежых агуркоў, якія каштуюць каля 16 тысяч долараў. А дзе ж гарантаваны літоўцамі цукар? Яго так і не дачакаліся. Толькі ў жніўні — кастрычніку камерцыйная фірма нарэшце разлічваецца з дзяржаўнай. Алеем. Хто ж выйграў ад гэтага кантракта? Мяркуйце самі. 21 сакавіка мінулага года для літоўскіх прадпрымальнікаў кілаграм агуркоў каштаваў 4600 рублёў пры яго сабекошце ў 14.737 рублёў і адпускной цане для большасці спажыўцоў — 16 тысяч. Такім чынам, фабрыка паралельна дзейнічала на двух напрамках. Для мясцовага рынку — адны цэны. Для выбраных партнёраў з ліку замежных фірмаў зусім іншыя, як гаворыцца, проста смешныя, у два - тры разы ніжэй сабекошту. У выніку начальства «пракаціла» сваё роднае прадпрыемства больш чым на паўмільярда рублёў. І навошта гэта яму спатрэбілася?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**





**Такія шматаблічныя жанчыны...**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

**ОТЧЕТ О ПРИБЫЛЯХ И УБЫТКАХ на 1995 г.**
**Закрытое акционерное страховое общество «ЧЕЛЕНДЖЕР», г. Минск**

*млн. руб.*

| ПРИБЫЛЬ | | УБЫТКИ (РАСХОДЫ) | |
|---|---|---|---|
| 1. Страховые взносы по прямому страхованию | 1326,1 | 1. Выплаты страхового возмещения и страховых сумм | - |
| 2. Средства, привлекаемые из резервов по накопительным и рисковым видам страхования | - | 2. Расходы на ведение дела | 96,3 |
| 3. Страховые взносы, полученные от перестраховочных операций | 617,2 | 3. Отчисления в резервы по накопительным и рисковым видам страхования | 704,8 |
| 4. Прочие доходы от страховой деятельности | - | 4. Уплаченные страховые взносы по рискам, переданным в перестрахование | 1003,6 |
| 5. Доходы от внереализационных операций | 57,7 | 5. Отчисления в фонд предупредительных мероприятий | - |
| Итого доходов | 2001,0 | 6. Прочие расходы | 32,2 |
| 6. Убытки | - | Итого расходов | 1836,9 |
| | | 7. Прибыль | 164,1 |
| **Всего** | **2001,0** | **Всего** | **2001,0** |

**ГОДОВОЙ БАЛАНС за 1995 г.**
**Закрытое акционерное страховое общество «ЧЕЛЕНДЖЕР», г. Минск**

*млн. руб.*

| АКТИВ | | ПАССИВ | |
|---|---|---|---|
| 1. Расчетный счет | 47,3 | 1. Уставной капитал | 593,5 |
| 2. Валютный счет | 10,1 | 2. Резерв по имущественному страхованию и страхованию от несчастных случаев | 704,8 |
| 3. Счета в банках по средствам резерва платежей | 1330,3 | 3. Резерв по страхованию жизни, пенсий и медицинскому страхованию | - |
| 4. Касса | - | 4. Фонды и резервы специального назначения | 141,4 |
| 5. Основные средства и другие долгосрочные активы | 59,0 | 5. Средства в расчетах | 8,0 |
| 6. Дебиторы | 1,3 | 6. Прочие пассивы | 24,7 |
| 7. Прочие активы | 24,4 | | |
| **Баланс** | **1472,4** | **Баланс** | **1472,4** |

**Достоверность баланса подтверждена 11.04.96 г. независимым аудитором Юркевичем И. П. (лицензия № 86).**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Наслухаўшыся нараканняў наконт дыскрымінацыі зняволеных па палавой прымеце, турэмныя ўлады ў амерыканскім штаце Алабама вырашылі ўраўнаваць у правах сваіх падапечных мужчын і жанчын. Па законах гэтага штата, з 1994 года зняволеных мужчынскага полу выводзяць на працу прыкаванымі адзін да аднаго. Цяпер гэта правіла будзе распаўсюджвацца і на жанчын.

**Рэйтэр**

Павальным захапленнем іспанцаў стала генеалогія. Усякі можа заказаць у спецыялістаў генеалагічнае дрэва. Аднак генеалогія — навука небяспечная. Ніхто з упэўненасцю не можа сказаць, што знойдуць у галінах генеалагічнага дрэва. Часцей знаходзяцца ўсё новыя нашчадкі. З гэтай малапрыемнай праблемай сутыкнуліся 90 працэнтаў з тых, хто заказваў даследаванні на працягу апошніх 5 гадоў. Яшчэ два працэнты былі азадачаны тым, што іх афіцыйныя бацькі зусім не з'яўляюцца і біялагічнымі бацькамі.

**«Інтэрнэшнл геральд трыбюн»**

Самы доўгі ў свеце сандвіч (даўжыня яго 268,5 метра) выраблілі вучні пекараў венгерскага горада Тата. Венгерскі бутэрброд на 55,5 метра даўжэйшы за брытанскі, які ў 1992 годзе быў ўнесены ў спіс сусветных дасягненняў.

**Асашыэйтэд Прэс.**

# «БЛІЦ-КРЫГ» ПА-ПІНСКУ,

## або «ЧП мясцовага маштабу»

***Гісторыю, якая здарылася больш чым паўтара месяцаў таму ў Пінску, умоўна можна было б назваць «бітвай гігантаў».***

***Сутнасць канфлікту ў наступным.***

***Прыкладна ў 12 гадзін дня 12 сакавіка да заводакіраўніцтва калектыўнага аб'яднання «Пінскдрэў» прыбылі каля 20 работнікаў праваахоўных органаў і АМОНа, якія блакіравалі кабінеты генеральнага дырэктара і галоўных спецыялістаў, зрабілі вобыскі, забралі бухгалтарскія дакументы і шматлікія рэчы асабістага карыстання. Акрамя таго, былі зроблены вобыскі на кватэрах старшыні праўлення аб'яднання — генеральнага дырэктара і яго намеснікаў. Падставай для такіх дзеянняў паслужылі пастановы пракурора горада Пінска...***

***Такая перадгісторыя гэтых падзей. Але ёсць і яе працяг — у выглядзе арыштаў супрацоўнікаў гэтага прадпрыемства і людзей, што маюць да яго дачыненне.***

***Зусім не хачу выступаць у ролі нейкага следчага, які хоча выказаць свой погляд на памянёныя падзеі. Мяркую, што гэтым зоймуцца адпаведныя органы. Таму я сустрэўся з усімі дзеючымі асобамі, паспрабаваў высветліць сапраўдныя прычыны падзей, якія адбыліся ў Пінску***

**Ларан АРЫНІЧ, генеральны дырэктар КА «Пінскдрэў»:**

— Адназначна цяжка сказаць, адкуль зваліліся ўсе напасці на «Пінскдрэў». Відаць, вытокі іх — у агульнай эканамічнай сітуацыі, у бачанні галоўнымі віноўнікамі яе ў гэтым гаспадарнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў. І таму мясцовыя сілавыя структуры спрабуюць ужо не першы год акружыць асаблівым «клопатам» і «ўвагай» законапаслухмяных гаспадарнікаў, а не крымінальны свет.

КА «Пінскдрэў» аказалася адзіным устойліва працуючым аб'яднаннем у нашым горадзе, а ўсіх сілавых і кантралюючых структур вельмі многа — таму не дзіўна, што нас яны вельмі «любяць».

Таму, калі сёлета 25 студзеня з'явілася магчымасць выказацца на гаспадарчым актыве, я яе выкарыстаў, падкрэсліўшы пры гэтым, што, нягледзячы на сапраўды вельмі складаную эканамічную і фінансавую сітуацыю па рэспубліцы ў цэлым і ў нашым горадзе — у прыватнасці, мы выжылі ў мінулым годзе. Куды больш складана было пратрымацца ў маральным плане, таму што столькі правяраючых і рознага роду кантралёраў нас дагэтуль не наведвала.

У канчатковым выніку я вымушаны быў «замкнуць» усіх правяраючых на сябе, таму што практычна ўсе нашы службы, асабліва фінансава-эканамічная, нармальна працаваць не маглі. Мы пастаянна павінны былі рыхтаваць розныя даведкі, штодзень выдаваць нейкую інфармацыю.

Праўда, аднойчы, пры наведванні «Пінскдрэва» групай правяраючых з кантрольнага ўпраўлення пры Прэзідэнце РБ, я пацікавіўся ў іх існуючым парадкам усіх гэтых праверак і ці ёсць нейкія змяненні ў патрабаваннях пры іх правядзенні. Быў атрыманы дакладны адказ, што любы правяраючы, нягледзячы на тое, што мае пасведчанне пэўнай службы, павінен яшчэ прад'явіць і афіцыйны дакумент, дзе ўказана, хто надаў правяраючаму паўнамоцтвы і па якому пытанню неабходна абследаваць наша аб'яднанне ці нейкі іншы аб'ект. У далейшым я паспрабаваў менавіта так і дзейнічаць. І, вядома ж, нажыў сабе ворагаў у многіх гэтых органах.

У пэўнай ступені тады я пакрытыкаваў і гарадскую пракуратуру, якая павінна садзейнічаць прадпрыемству ў вытворчасці і стаяць на варце закона. На жаль, атрымлівалася наадварот. Пракуратура садзенічала тым, хто ўсяляк стараўся нас прынізіць, дадаткова аштрафаваць, пакараць менавіта ў фінансавым плане. Сярод іх асабліва вызначаецца гарадская падатковая інспекцыя. Мы ж выдатна ведаем, што пэўная частка ад сумы санкцый ідзе на патрэбы падатковай службы. Каментарый, як кажуць, тут не патрэбен.

Я выказаўся і па пытанню работы нашай міліцыі, што практычна не дапамагае нам адбівацца ад крымінальных элементаў, якія сёння актыўна спрабуюць зарабіць на прамысловых прадпрыемствах.

Фіналам усіх маіх выступленняў стаў ракавы аўторак, 12 сакавіка. Яго, відаць, у многім паскорыла справаздачна-выбарчая канферэнцыя аб'яднання, якая прайшла на «ўра» і пры 100-працэнтнай падтрымцы новага саставу праўлення. Мяне перавыбралі паўторна, прычым на больш тэрмін: не на тры гады, а на пяць. Гэтая падзея, мабыць, яшчэ больш згусціла хмары над аб'яднаннем.

Дарэчы, пасля заканчэння гаспадарчага актыву пракурор горада спадар Андрыевіч браў слова для даведак і вельмі негатыўна выказаўся аб нашым аб'яднанні, кінуўшы ў яго адрас вельмі грубыя і несправядлівыя словы.

Потым ён услых заявіў, што даваў заданне пэўным службам займацца намі, аднак рабіў гэта недастаткова актыўна. А вось зараз ён гэтай справай зоймецца асабіста, узначаліць усе праверкі і пакажа «Пінскдрэву», дзе ракі зімуюць. І гэта было сказана ў прысутнасці некалькіх соцень кіраўнікоў прадпрыемстваў.

Мне, як кіраўніку аб'яднання, па-чалавечы шкада, што пры такім падыходзе сілавых структур горада да справы «Пінскдрэў» можа проста стаць у адзін рад з тымі прадпрыемствамі, якія не паказваюць прыкмет жыцця.

Аб гэтым, паверце, у мяне баліць душа, таму што я добра ведаю, колькі сюды было ўкладзена сіл людскіх і поту.

Сёння калектыўнае аб'яднанне «Пінскдрэў» — буйнейшае дрэваапрацоўчае аб'яднанне рэспублікі са 115-гадовым стажам. У яго саставе 5 мэблевых фабрык, завод па вытворчасці драўнянастружкавай пліты, габляванага шпону, запалкавая фабрыка, леспрамгас, будаўнічае ўпраўленне і яшчэ некаторыя звёны вытворчасці. Яно выпускае звыш 100 назваў прадукцыі. Спісачная колькасць на пачатак года склала 4.442 работнікі.

Да 1992 года прадпрыемства называлася вытворчым дрэваапрацоўчым аб'яднаннем. Дзякуючы акцыяніраванню «Пінскдрэў» выйшаў на высокі ўзровень работы, захаваў сацыяльную сферу і будаўніцтва жылля.

У мінулым годзе ў аб'яднанні назіраўся прырост аб'ёмаў вытворчасці. У дзеючых цэнах ён вырас у 5 разоў. Знешнегандлёвы абарот дасягнуў 12.987,7 тысячы долараў ЗША. Аб'ём экспарту склаў 7847,2 тысячы долараў ЗША, а ўдзельная вага экспарту ў агульным аб'ёме — 20,6 працэнта. У дзяржаўны бюджэт за год было пералічана 93 мільярды рублёў.

Нішто не прадказвала бяды. Але наступіў для ўсяго прадпрыемства «чорны аўторак». Патэлефанаваў супрацоўнік УУС падпалкоўнік Лаганоўскі, з якім я напярэдадні сустракаўся па сітуацыі, якая склалася вакол заснаванай намі і Масквой страхавой кампаніяй БелАквіка.

Дзесьці ў сярэдзіне лютага быў арыштаваны яе генеральны дырэктар Сяргей Страпко, якога арыштавалі за тое, што ён своечасова не змог вярнуць крэдыт, узяты ў страхавой кампаніі.

Між тым, дакументальна ўсё было аформлена як след, і да 31 снежня 1996 года ён абавязаўся разлічыцца з БелАквікай. Але ж гэтаму пакуль не суджана быць..

Дык вось, Лаганоўскі перагаварыў са мной наконт сустрэчы і на 12 гадзін дня папрасіў быць на месцы мяне і маіх намеснікаў. Я такую просьбу ўспрыняў як нармальную з'яву. Як аказалася, я вельмі памыліўся. Роўна апоўдні да мяне ў кабінет зайшлі з дзесятак міліцыянераў на чале з Лаганоўскім. Апошні прадставіў падпалкоўніка Ягорава з Брэсцкага АБЭЗ, якому было даручана правесці ў маім кабінеце вобыск. Паказаў таксама санкцыю пракурора Андрыевіча.

Спадар Ягораў пачаў дзейнічаць. Былі вывернуты мае кішэні, сейф, абшараны усе сталы, забраны абодва пашпарты (унутрыбеларускі і замежны), запісныя кніжкі, сшыткі, у якіх я раблю заметкі на планёрках, нарадах.

Не паверыце, але я быў у глыбокім шоку. Вось, думаю, дажыў да сівых валасоў — і на табе.

Я спрабаваў датэлефанавацца ў гарвыканком. Аднак мэр горада Васіль Уладзіміравіч Шуст быў заняты на правядзенні мерапрыемства — выканкома. Адтуль мне потым, па просьбе Ягорава, прывезлі даведку, што з'яўляюся дэпутатам мясцовага Савета. Высветліць нешта ў пракуратуры і міліцыі таксама не ўдалося.

Наогул, аперацыя была спланавана даволі старанна, і час для яе быў выбраны ідэальны, паколькі зрабіць даведкі ў Брэсце таксама не было як: усё яго кіраўніцтва знаходзілася ў Гомелі, дзе Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў гэты дзень праводзіў нараду кіраўнікоў абласцей.

Калі была прывезена даведка аб тым, што я з'яўляюся дэпутатам гарсавета (пасведчанне маё знаходзілася дома), падпалкоўнік Ягораў сказаў, што на гэтым вобыск спыняецца.

Праўда, потым ён са сваёй камандай наладзіў пошукавыя работы ў маёй кватэры і ў доме маёй жонкі без маёй прысутнасці. У асноўным, без складання хоць бы якога-небудзь акта былі забраны мае асабістыя рэчы, некаторыя паперы хатняга ўжытку, вадзіцельскае пасведчанне, 10 новых касет, 6 шкурак норкі. Пазней тры з іх мне вярнулі, а таксама некаторыя рэчы.

Цяпер што датычыцца вобыскаў у маім кабінеце і на кватэры. Як вядома, на момант вобыску закон аб дэпутацкай недатыкальнасці дэпутатаў мясцовых Саветаў адменены не быў. Я з'яўляюся і па сённяшні дзень дэпутатам Пінскага гарадскога Савета 21-га склікання.

У даведцы, выдадзенай на маё імя за подпісам старшыні гарсавета спадара Цімошчанкі ад 12 сакавіка 1996 года, гаворыцца, што правамоцнасць дэпутатаў мясцовых Саветаў, якія не выбраны ў адпаведнасці з артыкулам 8 Закона РБ «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» захоўваюцца і працягнуты ў межах і аб'ёме, прадугледжаных Канстытуцыяй РБ, да выбрання і адкрыцця першага пасяджэння адпаведных Саветаў дэпутатаў новага склікання на падставе Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь №87-XIII ад 22.02.96 г.

Выходзіць, што вобыскі былі незаконныя.

У гэты ж дзень я зрабіў даклад членам праўлення аб узнікшай сітуацыі. Усе разам дапазна «шліфавалі» тэкст заявы на імя Старшыні Вярхоўнага Савета, Генеральнаму пракурору РБ і ў іншыя інстанцыі.

І тут мы даведаліся, што арыштаваны наш камерцыйны дырэктар Аляксандр Суднік, якому канкрэтна абвінавачанне прад'яўлена не было.

Дарэчы, нядаўна з Генеральнай пракуратуры РБ мы атрымалі афіцыйны дакумент, у якім указана, што «12 сакавіка 1996 года супрацоўнікі міліцыі з санкцыі пракурора г. Пінска Андрыевіча А.М. правялі ўказаныя вобыскі, у ходзе якіх у Арыніча Л.С. канфіскавалі дакументы, якія ўяўляюць цікавасць для справы і зброю, якая захоўвалася без адпаведнага дазволу.

Справядлівасці дзеля трэба сказаць, што такі дазвол у мяне ёсць. Адразу на дзве адзінкі зброі. Нумар яго 1633, зацверджаны дазвол намеснікам начальніка Пінскага УУС тэрмінам да 16.02.97 г.

Праўленне вырашыла: калі так крута развіваюцца падзеі вакол «Пінскдрэва», не выключана, што могуць дабрацца і да іншых. А значыць, мне неабходна шукаць абароны ў вярхоўнай улады, і я вымушаны быў паехаць у Мінск...

18 сакавіка, падчас знаходжання ў сталічных калідорах улады, мне стала дрэнна. Я быў шпіталізаваны ў чацвёртую клінічную бальніцу Мінска з прыметамі перадінфарктнага стану.

У дадатак да ўсіх непрыемнасцей 22 сакавіка на мэблевай фабрыцы «Пінскдрэва» адбыўся пажар: згарэў склад з паралонам і некалькі замежных станкоў. Па папярэдніх сцвярджэннях спецыялістаў, загаранне адбылося з-за зварачных работ. І я павінен быў прыехаць, каб высветліць, у чым справа.

На сёння пакуль ніякай яснасці наконт узнікшай сітуацыі няма. Пракурор горада катэгарычна адмаўляецца ад сустрэчы. Многія нашы работнікі працуюць пад страхам таго, што іх заўтра выклічуць у пракуратуру ці міліцыю і адправяць у халодную без усякіх на тое падстаў... Пацвярджэннем гэтага стала ўзбуджэнне крымінальнай справы на майго намесніка па эканоміцы Зінаіду Беразіну быццам бы за адказ выдачы неабходных дакументаў. Хоць скажу, што прыходу правяраючых, якія сапраўды паўнамоцныя правяраць, на «Пінскдрэве» ніхто і ніколі не перашкаджаў і не перашкаджае, і ўсе дакументы па афіцыйных запытах выдаваліся і выдаюцца своечасова. Першыя тыдні два пасля так званай «аперацыі» прадпрыемства было практычна паралізавана. Многія патэнцыяльныя партнёры адразу адмовіліся з намі супрацоўнічаць.

Дарэчы, у дзень гэтай грандыёзнай аперацыі на тэрыторыі праўлення КА «Пінскдрэў» знаходзіліся прадстаўнікі Германіі і Польшчы з дзелавымі кантрактамі. Але пасля таго, як амонаўцы прыставілі іх да сцяны, праверыўшы пад дуламі аўтаматаў іхнія кішэні, яны зніклі ў невядомым напрамку. Упэўнены, што на аб'яднанні яны ўжо ніколі не з'явяцца.

**Аляксей АНДРЫЕВІЧ, пракурор горада Пінска:**

— У мяне выдатныя дзелавыя адносіны з «Пінскдрэвам».

Але ў праваахоўныя органы неаднаразова паступалі звесткі аб парушэннях і злоўжываннях з боку работнікаў аб'яднання. Таму і праводзіліся праверкі АБЭЗа Пінскага ўпраўлення ўнутраных спраў, падатковай інспекцыяй і іншымі кантралюючымі службамі, у прыватнасці пракуратурай. На «Пінскдрэве» адказваліся выдаваць патрэбныя нам дакументы. Таму на падставе законаў аб міліцыі і аб пракуратуры — было прынята рашэнне забраць іх. У рэшце рэшт, незалежна ад таго, дзяржаўнае гэта прадпрыемства ці калектыўнае, закон павінны выконваць усе.

Тое, што там было каля 20 чалавек міліцыі і АМОНа з аўтаматамі, — гэта няпраўда. На мой погляд, зараз вакол падзей на аб'яднанні напаляюцца страсці для таго, каб гэтую праверку спыніць яшчэ ў зародку.

Зараз мы адпрацоўваем комплекс пытанняў аб крадзяжы калектыўнай маёмасці некаторымі асобамі, іх злоўжываннях, а таксама па правядзенню прыватызацыі прадпрыемства.

У нас былі паведамленні і канкрэтныя факты з пракуратуры рэспублікі, каб зрабіць праверку. Была інфармацыя і са Службы кантролю Прэзідэнта, якая выявіла парушэнні ў рабоце «Пінскдрэва». Яе прадстаўнікі прасілі нас правесці сур'ёзную праверку. Прыйшлося ўмяшацца ў гэтую справу і падтрымаць у нейкай меры і пракуратуру, і міліцыю, і кантралюючыя органы.

Дарэчы, у адносінах да намесніка генеральнага дырэктара ўзбуджана крымінальная справа за адмову ў выдачы пэўных дакументаў праваахоўным і кантралюючым органам.

Цяпер што датычыцца вобыскаў у кабінеце Арыніча і на кватэры яго і яго жонкі. Ён з'яўляецца дэпутатам старога склікання гарсавета, а новы ні гарадскі, ні абласны не выбраны. У мяне былі законныя падставы для таго, каб даць санкцыю на правядзенне вобыску. І ён быў зроблены.

Пры вобыску работнікамі АБЭЗ УУС Брэсцкага аблвыканкома былі забраны некаторыя дакументы, якія ўяўляюць сабой пэўную цікавасць для следства.

Цяпер пра арышт Судніка. Яму прад'яўлена абвінавачанне ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці і халатнасці. Не думаю, што ад арышту аднаго чалавека парушыўся рабочы рытм такога прадпрыемства, як «Пінскдрэў». Да таго ж работнікі следства выклікаюць з аб'яднання толькі тых людзей, якія неабходны для правядзення следства.

Здагадваюся, што ходзяць размовы наконт таго, што ўсё пачалося 25 студзеня пасля заканчэння гаспадарчага актыву. Справа ў тым, што да гэтага выступлення Ларана Сцяпанавіча Арыніча якраз і праводзілася праверка. І менавіта на нарадзе кіраўнікоў горада ён зрабіў спробу паставіць на месца кантралюючыя органы.

Я, як пракурор, сказаў, што ўсе гэтыя праверкі праводзяцца ў адпаведнасці з заканадаўствам РБ. Падабаецца гэта Ларану Сцяпанавічу ці не, але праверкі будуць праводзіцца і далей будуць рабіцца высновы.

Мы хочам проста разабрацца, што адбываецца на «Пінскдрэве». Гэтага ад нас вымушае наш службовы доўг.

**Святаслаў КУРЭЛЬ, начальнік УУС г. Пінска палкоўнік міліцыі:**

— Аперацыя па наведванню 12 сакавіка КА «Пінскдрэў» была загадзя спланавана. Мы вырашылі забраць некаторыя дакументы, таму што было ўзбуджана некалькі крымінальных спраў на некаторых асоб аб'яднання.

У той дзень я быў на пасяджэнні выканкома.

Для канфіскацыі патрэбных дакументаў і былі накіраваны некаторыя супрацоўнікі міліцыі і АМОНа. Адразу скажу, што аўтаматаў там не было. Непасрэдна аперацыяй кіраваў падпалкоўнік Кузьміч. Яму я асабіста даручыў канфіскаваць дакументы.

У аперацыі прымалі ўдзел і супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю з Брэста. Падпалкоўнік Ягораў непасрэдна праводзіў канфіскацыю дакументаў на кватэры ў самога Арыніча, а на «Пінскдрэве» былі іншыя работнікі міліцыі.

Дарэчы, аперацыя аднача́сова праводзілася ў розных месцах. Так робіцца звычайная наша работа. Падчас яе правядзення быў арыштаваны спадар Суднік. Закон дазваляе трымаць яго пад вартай да заканчэння следства. Думаю, што на працягу месяца мы разбяромся.

Я з павагай адношуся да «Пінскдрэва». Аб'яднанне дае работу больш чым чатыром тысячам пінчан, плаціць падаткі, трымае на сваім балансе іншыя бюджэтныя арганізацыі.

Ну, а хто не ўстаяў перад спакусай і пайшоў па крымінальнаму шляху — таго трэба паставіць на месца і аддаць па заслугах.

Мяркую, што гэтая сітуацыя на такое аб'яднанне, як «Пінскдрэў», не можа адмоўна паўплываць, таму што я ведаю, што ўсе кіраўнікі прадпрыемства і дырэктары яе філіялаў — вельмі дзелавыя людзі і звяртаць увагу на такія, я сказаў бы, не вельмі буйныя пытанні, яны не павінны. На вытворчасці гэта ніяк не адаб'ецца, а тым больш на яе бягучай дзейнасці: мы канфіскоўвалі дакументы, якія датычацца мінулай дзейнасці «Пінскдрэва».

**Лявонцій МАРКОВІЧ, начальнік Пінскага гараддзела УКДБ па Брэсцкай вобласці:**

— Я ў курсе ўсіх спраў, звязаных з «Пінскдрэвам». Ведаю, што заведзена крымінальная справа і яе расследуе пракуратура. Аб яго выніках гаварыць пакуль рана.

Дарэчы, мы ў гэтай аперацыі не ўдзельнічалі, але ведаем усю абстаноўку. Наш супрацоўнік удзельнічае толькі ў аператыўна-следчай групе. Таму тыя даныя, якія КДБ атрымлівае, перадаюцца ў следчую групу, што створана рашэннем абласной пракуратуры.

Гаворачы пра арганізацыю аперацыі, я думаю, што пракуратура тут дзейнічала ў адпаведнасці з сітуацыяй, якая склалася. Магчыма, было нейкае процістаянне з боку «Пінскдрэва».

Наогул, у мяне з прадпрыемствам, яго кіраўніцтвам добрыя адносіны. Аб'яднанне ўвесь час стабільна працавала. Нягледзячы на эканамічную і палітычную сітуацыю, было адным з вядучых прадпрыемстваў Пінска. Там многа зроблена для таго, каб наладзіць эканамічныя сувязі з замежжам.

Нам не было чаго дзяліць. Расследаванне пакажа, чыя праўда.

**Васіль ШУСТ, мэр г. Пінска**

— У мяне абсалютна станоўчыя адносіны да «Пінскдрэва» і яго кіраўніцтва. У першую чаргу да генеральнага дырэктара аб'яднання, і не толькі як да кіраўніка, але і як да арганізатара. Тое, што Арыніч — адзін з мацнейшых кіраўнікоў горада і што на сённяшні дзень «Пінскдрэў» — адно з самых стабільных прадпрыемстваў на працягу апошніх гадоў пяці, а то і больш, — бясспрэчна.

І нават тыя падзеі, якія адбыліся 12 сакавіка 1996 года, той пажар, які здарыўся на мэблевай фабрыцы 22 сакавіка — на шчасце, не выбілі іх з каляіны. Думаю, што і арышты таксама не змаглі моцна паўплываць на рытм работы.

Праўда, у маральным і псіхалагічным плане людзі былі шакіраваны. Гэта я зразумеў пасля размовы з Арынічам і членамі праўлення аб'яднання. Асабліва не па сабе ім было, калі адбыўся арышт спадара Судніка і калі прайшлі вобыскі і пачаліся інтэнсіўныя допыты.

Зараз я не магу меркаваць, у чым «Пінскдрэў» можна абвінавачваць, паколькі не ведаю і ў гэтую сферу ўлазіць не магу.

Я не прысутнічаў пры правядзенні самой аперацыі. Аднак са слоў відавочцаў магу сказаць: для нашага горада ў адносінах да аб'яднання такога куражу магло і не быць.

Можна было спакойна прыехаць, зрабіць вобыск, не падымаючы шуму на ўвесь горад.

Кіраўнікі «Пінскдрэва» пакуль яшчэ не зладзеі — ніхто гэтага не даказаў, а нармальныя людзі, якія працуюць на сваіх месцах.

Гэта быў яўны перабор. Лічу, што для Пінска гэта вельмі непрыемны выпадак. Нават у маральным плане. Па сутнасці, на прадпрыемстве працуе 4,5 тысячы чалавек. Калі меркаваць, што сярэдняя сям'я складаецца з 3-4 чалавек, то няцяжка падлічыць, колькі пінчан увогуле «завязана» на аб'яднанні.

Спачатку я сябе вельмі няўтульна адчуваў па прычыне таго, што ў нас у горадзе склалася такая вось канфліктная сітуацыя. «Пінскдрэў» практычна на тыдзень-паўтара паралізавалі.

Чаго граху таіць: сёння работа калектыву залежыць у першую чаргу ад кіраўніцтва. І калі яно не будзе займацца сваімі абавязкамі, а толькі ездзіць, даваць розныя тлумачэнні, то гэта абавязкова адаб'ецца на рабоце калектыву.

Упэўнены, што менавіта крок вобыску быў не зусім правільным. Праверкі на аб'яднанні праводзіліся і раней, да 12 сакавіка. Тым не менш, вобыск з такім антуражам, мабыць, не зусім падыходзіў для Пінска.

Здаецца, зараз мы дамовіліся, каб такія пытанні вырашаліся неяк больш карэктна, цывілізавана, з меншым уронам для вытворчасці.

***Вось, здаецца, і ўсё, што датычыцца непасрэдна падзей «чорнага» аўторка.***

***Апошняе слова ў гэтай справе за пракуратурай, пакуль рана рабіць нейкія высновы — следства пакажа. А час расставіць кропкі над «і»: хто ў якой ролі выступаў у гэтым жыццёвым спектаклі.***

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# Мастацтва вымірае?..

## Што ж дапаможа нам выбрацца з бездані бездухоўнасці?

**_Пытанні, вынесеныя ў загаловак, ужо даўно задаю сама сабе. Адказу не знаходжу — магчыма, таму, што яны адносяцца да разраду рытарычных. Хто адкажа?.._**

**_З усімі сумненнямі прыйшла да чалавека, якога па праву можнаназваць Магіканінам. Народнаму мастаку СССР і Беларусі акадэміку Міхаілу Савіцкаму лёс адмераў нямала выпрабаванняў: вайна, палон, катаванні ў канцэнтрацыйных лагерах, потым падазрэнні ў «неблагонадёжности» і праца, дзесяцігоддзі штодзённай карпатлівай мастакоўскай працы — і працы над сабой._**

**_Цудоўна ведаю, што ў «інтэлігенцкіх» колах асоба Савіцкага ўспрымаецца, мякка кажучы, неадэкватна. Павага да таленту, да бліскучай адукаванасці багата аздабляецца злосцю: пункт гледжання Савіцкага на мастацтва і жыццё, яго аргументы падзяляюцца не ўсімі._**

**_У чымсьці меркаванні Міхаіла Савіцкага завострана-палемічныя, спрэчныя, неадназначныя, але — перакананая — варта прыслухацца да народнага мастака._**



Здымак 1984 года.

### «НАЛАДЗІМ СВЯТА З ФЕЕРВЕРКАМ?..»

**— Міхаіл Андрэевіч, што здарылася: мастацтва паміраe — ці адміраe?**

— Ідзе экспансія, агрэсіўнае насаджэнне контр-культуры. Ні для каго не сакрэт, што зараз адбываецца каланізацыя тэрыторыі былога СССР — а калоніі не патрэбна нацыянальнае мастацтва. Адметна, што ва ўсіх краінах СНД, у тым ліку і ў Беларусі, урад не мае праграмы ў галіне культуры, мастацтва — г. зн. у галіне чалавеказнаўства, работы з чалавекам. Уся гуманітарная сфера — навука, адукацыя, мастацтва — дзесьці па-за ўрадавай праграмай: школа руйнуецца, навука не асігнуецца, а мастацтва падсякаецца на корані. Ці, можа, гэта і ёсць урадавая праграма?..

**— Магчыма, паўсюдна наступіла паласа «безвременья» — мастацтва наогул няма?**

— Такога не бывае! Мастацтва ёсць заўсёды. Проста бывае эпоха «подлее подлого», калі людзі займаюцца мастацтвам на свой страх і рызыку, у жабрацтве, — усё гэта ляжыць пад спудам, яно не запатрабуецца грамадствам. Падобныя перыяды ўжо былі ў гісторыі. Чыноўнік, які рабіў вопіс маёмасці пасля смерці геніяльнага Рэмбранта, запісаў: засталося толькі некалькі пэндзляў і фарбаў, і больш нічога. Для чыноўніка велізарная мастакоўская спадчына — нішто! Рэмбрант быў забыты ў Галандыі на сто гадоў...

Ад таго, што сапраўднае мастацтва ігнаруецца грамадствам, у першую чаргу пакутуе само грамадства. Народ ператвараецца ў жывёлу, у быдла, адбываецца страта інтэлектуальнага цэнзу. Але мастацтва ўсё роўна не перастае існаваць. У любой глыбінцы можа нарадзіцца новы Скарына, Ламаносаў — чалавек, здатны штосьці адметнае стварыць у навуцы, у літаратуры, у музыцы, жывапісе...

**— Прабачце, але дазволю сабе заняць пазіцыю скептыка: магчыма, мае рацыю той, хто сцвярджае, быццам бы ў нас ніколі і не было сапраўднага мастацтва?..**

— Так заявілі некалькі былых дысідэнтаў, Шэмякін і іншыя. Дзіўна, што ўсе з гэтым пагадзіліся, усе маўчаць. Аднак зусім нядаўна свет апладзіраваў усім відам савецкага мастацтва — музыцы, жывапісу, тэатру, харэаграфіі і г. д. Дык куды дзелася гэта, чаму яго аддалі анафеме? Чаму людзі мастацтва вырашылі, што свая праца, свае каштоўнасці нічога не вартыя, а галоўнае — паперкі, што называюцца доларамі?.. У адносінах да гэтай паперкі, аказваецца, высокакваліфікаваная творчая праца нічога не вартая! Чаму людзі пагадзіліся з гэтым — незразумела... Хаця ў пэўнай ступені сітуацыя тлумачыцца тым, што мастацтва, культура «пры Саветах» былі «остаточными» у палітыцы ўрада, г. зн. фарміраванню чалавека не ўдзялялася належнай увагі.

За апошнія 5—7 гадоў зроблены велізарны разрыў традыцый нацыянальнага мастацтва. На аднаўленне запатрабуецца некалькі дзесяцігоддзяў, але да гэтага нікому няма справы.

**— І ўсё ж у рэспубліцы праводзяцца нейкія мерапрыемствы, наладжваюцца імпрэзы...**

— Вы дакладна заўважылі: «мерапрыемствы», «імпрэзы» — усё наскокам, непрадумана... Добры прыклад: пленэр Шагала ў Віцебску. У вашай газеце адзін з кіраўнікоў Міністэрства культуры і друку заявіў, што пленэр даў твораў мастацтва на вялікую суму грошай. Дык дзе гэтыя творы?!. Далей — болей: Міністэрства культуры неаднаразова адзначала, што самая сучасная форма развіцця мастацтва — гэта шоу. Атрымліваецца: наладзім свята з феерверкам, марожаным і шампанскім! Зараз намецілі чарговае шоу — пленэр Бялыніцкага-Бірулі. А я адмаўляюся ўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве. Магу пагадзіцца, што шоу мае значэнне для сцэнічных відаў мастацтва, аднак жывапіс, работа над карцінай не можа быць шоу. Гэта не гастрольнае мастацтва!..

### АД АВАНГАРДУ — ДА АБСУРДУ?

**— Міхаіл Андрэевіч, а выстаўкі, а недзяржаўныя галерэі?..**

— Вы паглядзіце, што там выстаўляецца!.. Сам тэрмін «авангард» мае на ўвазе штосьці новае, перадавое. Аднак «новае» не з'яўляецца эстэтычнай катэгорыяй, гэта проста канстатацыя факта: раней такога не было. Фактар навізны не азначае, добра гэта ці дрэнна, цудоўна ці брыдка, недарэчна... Твор мастацтва ацэньваецца з пункту гледжання дасканаласці формы, гармоніі, выразнасці — але нідзе і ніхто з сумленных эстэтыкаў, філосафаў мастацтва ніколі не сказаў: гэты твор добры толькі таму, што ён новы. Зараз адбылося неверагоднае: паняцце «новае» стала якаснай характарыстыкай. Гэта чыста абывацельскія, спажывецкія адносіны да мастацтва.

Схадзіце на беларускую выстаўку выяўленчага мастацтва: нават калі мастакі лічаць сябе авангардыстамі, дык іх работы — зусім не авангард з пункту гледжання самога паняцця, а нейкая самадзейная бязглуздзіца, «трызненне»!

**— Ваша непрыманне авангарднага мастацтва вядома, здаецца, усім і даўно. Але ж зараз руйнуюцца ўсе накірункі. Мастацтва, атрымліваецца, непатрэбна нікому — і ніякае.**

— Мы, сапраўды, знаходзімся ў вышэйшай фазе каланізацыі, ці проста прагрэсіўнага маразму, калі ні рэалістычнага, ні авангарднага, наогул ніякага мастацтва (як і людзей, што яго ствараюць) не патрабуецца. Авангардысты паскакалі, паламалі, што маглі, а цяпер іх саміх спісалі ва утыль. На жаль, з усяго выяўленчага мастацтва застаюцца актуальнымі рэклама замежных фірмаў ды афармленне прыватных рэстаранаў. Вось гэта — мастацтва нашых дзён! Іншага мастацтва нам «не паложана», іншага мы не дастойныя — з пункту гледжання надзвычай папулярнага фонду Сораса. А той, хто здольны на большае, павінен працаваць не на родную культуру, а на заакіянскую...

Хаця... Куды кідаць каменне? Іуда — хіба ён здраднік?

**— Вядома, здраднік!**

— Мне здаецца, Іуда — проста слабы чалавек. Нягоднікі — тыя, што далі яму 30 срэбранікаў.

**— ???**

— Калі Іуда даведаўся пра лёс Хрыста, ён выкінуў грошы і задушыўся... Важна заўсёды асэнсоўваць свае дзеянні і ўчынкі.

### «СТВАРАЦЬ МАСТАЦТВА — ДАР БОЖЫ, АЛЕ...»

**— Ці не згушчаеце вы фарбы, Міхаіл Андрэевіч? У нас жа ёсць Беларуская акадэмія мастацтваў (БАМ), дзе маладыя людзі атрымліваюць класічную адукацыю. Ды і Вы кіруеце акадэмічнымі творчымі майстэрнямі, дзе лепшыя выпускнікі БАМа праходзяць станаўленне...**

— Я ўжо гаварыў, што ў дзяржавы няма палітыкі ў гуманітарнай сферы і, тым больш, у галіне падрыхтоўкі кадраў. Як вынік — некалькі апошніх выпускаў БАМа ў пераважнай большасці непрафесіянальныя, непадрыхтаваныя.

**— Але там выкладаюць даволі вядомыя мастакі...**

— Самае парадаксальнае, што асобы, чые імёны «на слыху», цалкам развалілі метадычную падрыхтоўку, зруйнавалі навучальны працэс — і пакінулі пасады загадчыкаў кафедраў малюнка і графікі. Не ведаю, баяцца адказнасці ці проста распісаліся ў сваёй непрыгоднасці як педагогі?.. Выпускаць мастакоў, якія на дыпломным курсе не ўмеюць прафесіянальна выканаць работу, і ўсё гэта прыкрываць словамі пра «еўрапейскі ўзровень падрыхтоўкі» — колькі можна?!

*У размову ўступае Андрэй Савіцкі:*

— Калі ў мінулым годзе я прыйшоў на прагляд, два педагогі спрабавалі мяне пабіць, таму што ім не падабаюцца мае погляды на мастацтва. Іншых аргументаў у іх не знайшлося. Вось узровень!..

**— Міхаіл Андрэевіч, а вам не прапаноўвалі, напрыклад, чытаць курс лекцый у БАМе?**

— Мне?!. Ды там выставяць нарад міліцыі ці згуртавання вайскоўцаў, толькі каб не пусціць. У апошнія гады намеціліся крайне негатыўныя адносіны БАМа да творчых майстэрань, і ў гэтай сітуацыі зусім незразумелае самаўхіленне Міністэрства культуры... Да таго ж, падрыхтоўка кадраў у акадэміі палітызаваная, а самымі аўтарытэтнымі і буйнымі выкладчыкамі з'яўляюцца людзі, чыя творчасць — ні аб чым, гэта пэўны тавар, які і па форме, і па зместу не мае ніякага дачынення да мэты мастацтва.

**— А якая мэта мастацтва?**

— Непрыманне зла і ўкараненне дабра, фарміраванне чалавека ў гэтым накірунку. Рознымі шляхамі паказваючы дабро і зло, выхоўваючы прыгожае... Захаванне і развіццё традыцыі культуры — своеасаблівага светаўспрымання, адносінаў да жыцця і ў душы мастака, і ў свядомасці грамадства.

**— Раскажыце, калі ласка, пра вашы майстэрні.**

— Мастак — гэта перш за ўсё мысліцель, у кожным сваім творы, вялікім і малым, ён павінен перадаць час — г. зн. мысліць аб быцці, характэрным для сучаснасці. У савецкі час шукалі аптымальныя формы работы з маладымі мастакамі, каб мець як мага менш творчых страт, каб не перарываліся нацыянальныя традыцыі... Форму творчых майстэрань палічылі найбольш эфектыўнай. Акрамя майстэрні жывапісу, ёсць майстэрня графікі Паплаўскага і майстэрня скульптуры, якой раней кіраваў Азгур, а зараз — Гумілеўскі... Калі з маёй майстэрні выйдзе хаця б адзін добры мастак — гэта вялікая справа.

Увогуле, навучыць мастацтву немагчыма — можна навучыць чалавека майстэрству, даць веды, а ствараць мастацтва — дар Божы... Але выпускнікі БАМа не толькі не гатовы да самастойнага вобразнага мыслення, але не ведаюць нават «азоў», дзеля чаго яны займаюцца мастацтвам. У творчых майстэрнях затрачваецца шмат часу на тое, што павінна было быць вырашана ў ходзе навучальнага працэсу.

**— На працягу трох гадоў лепшыя маладыя мастакі праходзяць у вас стажыроўку. А што потым?**

— А потым — на вуліцу (з горыччу махнуў рукой Савіцкі)!.. У тым і справа! Калісьці, карыстаючыся сваім аўтарытэтам, я ішоў «у вярхі» і прасіў уладкаваць маладога мастака, а цяпер нават самы здольны чалавек можа апынуцца на вуліцы.

**— Іншымі словамі — губляецца пакаленне таленавітых мастакоў... А як, дарэчы, вы ставіцеся да тых, хто прадае свае работы ў скверыку ля кансерваторыі?**

— У мастакоў ва ўмовах вяртання да капіталізму няма іншага рынку збыту, акрамя «панельнага». Яны вымушаны гандляваць карцінамі: жыць жа трэба. Узровень, вядома ж, адпаведны: рэчы разлічаны на самы нізкі абывацельскі густ. Сумна, але што рабіць? Дзякуй Богу, што мастакі не рабуюць камерцыйныя ларкі...

### СІМВОЛІКА — ПЫТАННЕ КУЛЬТУРЫ ДЗЯРЖАВЫ

**— Багата размоў пра тое, што Вы — старшыня камісіі па сімволіцы. Дарэчы, як правільна называецца гэта камісія?**

— Я і сам не разумею, што гэта за камісія, чаму яна створана і хто зрабіў мяне старшынёй... Сімволіка не можа прапаноўвацца без апісання, гэта ж аксіёма! Хтосьці выкарыстаў пэўныя сімвалічныя элементы, мабыць, падрыхтаваў і службовую запіску — тлумачэнне зробленага?.. Камісіі не паведамілі, хто з'яўляеца аўтарам праекта сімволікі, зацверджанай рэферэндумам. Буду патрабаваць, каб аўтар выклаў сваё бачанне — хаця б для таго, каб было з чым параўноўваць.

Дарэчы, сімволіка — досыць паказальны прыклад, як у Беларусі вырашаюцца праблемы культуры (бо сімволіка — гэта перш за ўсё пытанне культуры дзяржавы). Усё робіцца з дакладнасцю да наадварот: спачатку невядома хто прапаноўвае эскізы-варыянты сімволікі, невядома хто зацвярджае адзін з варыянтаў для перадвыбарных плакатаў, а потым ужо, пасля рэферэндуму, ствараецца камісія, якая заднім чыслом павінна знайсці найлепшае тлумачэнне гэтай сімволіцы!.. Зусім незразумела, чаму ў герб увайшла карта Беларусі? У гісторыі не бывае жалезных граніц, і карта краіны звычайна не адлюстроўваецца ў сімволіцы...

Варта было б стварыць калектыў з ліку вучоных-гісторыкаў, фалькларыстаў, мастакоў, літаратараў, якія б знайшлі варыянт (ці варыянты) сімволікі і прапанавалі на разгляд ураду — вядома, з апісаннем. Такі мой пункт гледжання... А зараз чамусьці гавораць, што герб і сцяг зрабіў Савіцкі — маўляў, таму і ўзялі яго ў журы зацвярджаць апісанне. Ну і ну!..

### АМАЛЬ ПА КАНТУ: НА ШТО СПАДЗЯВАЦЦА?..

**— Якая сумная, песімістычная гутарка атрымліваецца.**

— Становішча з культурай крытычнае, але не значыць, што зусім пагібельнае. Аднак, калі пусціць усё на самацёк, вынікам можа быць поўная гібель нацыянальнай культуры.

**— На што можна спадзявацца?**

— Паколькі народ у апатыі, чакаць, што людзі самі ўстануць і пойдуць адраджаць нацыянальную культуру, як у часы Мініна і Пажарскага, — падстаў няма. Дзеячы навукі, мастацтва, адукацыі не павінны чакаць «манны нябеснай», ім трэба аб'ядноўвацца, трэба быць актыўнымі грамадзянамі краіны. Трэба самой інтэлігенцыі, калі яна інтэлігенцыя, праявіць ініцыятыву ў стварэнні неабходных грамадзянскіх інструментаў, якія б забяспечвалі нармальную палітыку ў галіне культуры. Акрамя таго, застаецца надзея, што ў асяроддзі самой улады з'явяцца людзі, здольныя хаця б жахнуцца ад таго, што адбываецца. З Беларусі вывозяцца цудоўныя рэчы, а ўвозяцца адходы. Краіна ператварылася не толькі ў звалку непрыгодных і выйшаўшых з ужывання рэчаў, але і ў звалку нікому не патрэбных, выйшаўшых з ужывання ідэй, якімі нас прымушаюць жыць. Сапраўдная трагедыя!

Культура — гэта асяроддзе пражывання чалавека, яго цела і яго дух. Гэта сістэма каштоўнасцей: каштоўнасцей матэрыяльных — прыгожых рэчаў, і каштоўнасцей ідэальных — прыгожых ідэй. Але любая сістэма каштоўнасцей — гэта ідэалогія, вучэнне аб ідэях, дзякуючы якім чалавек лічыць прыгожае — прыгожым, а кепскае — кепскім. Аднак цяпер... У нас няма ідэалогіі ў самым высокім значэнні гэтага слова — як сістэмы каштоўнасцей, роднаснай народу, зразумелай яму, якая можа прымусіць народ працаваць і жыць сумленна. Няма нават ідэі, якая б аб'ядноўвала народ. Ніякі ўсенародна выбраны прэзідэнт не можа быць ідэяй, вакол якой з'ядноўваюцца людзі: чалавек — не ідэя, сёння ён такі, заўтра — іншы... Мастацтва павінна дапамагчы: гэта адно з самых магутных сродкаў работы з чалавекам, бо яно можа працаваць адначасова і з цэлым народам, і з кожным чалавекам паасобку. Адкідваць гэту сілу неразумна.

**— На развітанне не магу не спытаць, над чым Вы зараз працуеце?**

— Пра мяне часта пішуць: Савіцкі рабіў ваенную тэматыку, чарнобыльскую тэматыку і г. д. Гэта няправільна: у мяне адна тэма — аб нашым народзе як аб народзе годным, дастойным у самых розных сітуацыях. Ён быў дастойным у вайну, хаця гэта была сапраўдная народная трагедыя. І ў мірны час у сваёй працы. І ў чарнобыльскай катастрофе... Зараз працую над серыяй работ «Запаведзі», спрабую прасачыць, як запаведзі Хрыста ўвасобіліся ў нашым жыцці. Як і што ажыццявілася з таго, што Хрыстос вызначыў як самае высокае. Зло заявіла аб сабе на поўную моц, і не ўлічваць гэта нельга. Зло ў людзях будзе пераможана, калі кожны пераможа зло ў самім сабе. Дапамагчы ў гэтым здольна мастацтва.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

Віктар КАРАМАЗАЎ

# І крыж, і поўня

## З дзённіка



БІРУЛЮ мы яшчэ мала ведаем.

Бірулю мы ці хочам ведаць?

Бірулю мы ці будзем калі-небудзь ведаць?

Сумненні ёсць...

Пленэр Бялыніцкага-Бірулі — што атрымаецца? Творчае свята жывапісу, яшчэ хоць крок да спасціжэння асобы і таленту мастака, яго зямнога крыжа і поўні ў ягоным небе ці ўсяго толькі яшчэ адно казённае, пад звон пітнога шкла, мерапрыемства?

Ён паўстагоддзя вяртаецца да нас у Беларусь.

А мы?.. Як сустракаем?..

Мы не спяшаемся збіраць сваіх славутых у свеце дзядоў, бацькоў, сыноў у сваю хату — на веча нацыянальнага адраджэння.

Яшчэ ў хаце не прыбралі, смецце з яе не выкінулі, каб прывітаць у ёй духоўных пастыраў?..

Сябар БІРУЛІ акадэмік Лабанаў, мастак і мастацтвазнаўца, аднойчы ўспомніў выставу і на ёй — невялічкі эцюд Вітольда Каятанавіча з нечаканай назвай — «Дзень прыбавіўся на адну хвіліну». Там, на выставе, яму спачатку падалося, што эцюд для Бірулі звычайны, серабрысты, з нясмелым красавіцкім сонейкам, але потым, калі падышоў да яго другі ці трэці раз, вока злавіла на даляглядзе адзін маленькі блік, і той блік змяніў уражанне ад эцюда. На ім адкрыўся момант палявання — цягі слонкі. Адбылося неверагоднае: мастак спыніў бег часу на мяжы заходу сонца, той мімалётны стан прыроды, які ўсяго на момант узнік, каб тут жа знікнуць, паспеў схапіць, і глядач у захапленні ўсклікнуў: «Так, дзень прыбавіўся на адну хвілінку!..»

У адным мазку адчуў і цішыню на цязе, і песню слонкі, і... вясну.

Той жа Лабанаў сказаў, што паляўнічыя пейзажы Бірулі, поўныя таемнага жыцця прыроды, не кожны прачытае адразу і да канца, што дачытваць іх будуць нашчадкі.

Але ці не памыліўся акадэмік? На пачатку і ў сярэдзіне стагоддзя ён не ведаў, якая дэградацыя чакае прыроду ў канцы стагоддзя, і што ў гэтай дэградацыі будзе адбывацца духоўная дэградацыя тых самых нашчадкаў.

ГАРТАЮ ПАДАРОЖНЫ ЗЯЛЁНЫ СШЫТАЧАК. Вось — абрэвіятура: АСА. Пад ёю — занатоўкі. Чытаю.

«Жнівень. Ноч. Бераг Удомлі.

Неба ўсыпана зорамі. Падаюць і на ляту гаснуць.

Вогнішча дагарае.

Ляцяць качкі.

Біруля і я, дзяншчык пры генерале, ляжым, глядзім у неба. Чуем, як яшчэ адна пранеслася над намі.

Біруля кажа:

— З Удомлі ляцяць карміцца на Кезадру. Нашы — ад нас. А я пытаюся:

— Падымемся да світанку?

— Навошта?

— Каб золакам быць на Кезадры. Дзе качкі.

— А мы ж з табою тут хацелі раніцай пісаць туман?

— І паляваць?

— Ну... Паляваць пейзажысту трэба, каб вока трымаць на ўзводзе, каб чуць і бачыць у прыродзе, як чуе-бачыць малады ганчак, але ж і туманок на пэндзлік просіцца? Ці чуеш над шамардзінскім плёсам качку? Кракае...

— Дзе тое Шамардзіно...

— А я ўжо чую. Над намі зараз будзе пралятаць — ці зрэжаш?

— Хіба ўбачыш у гэтакай цямноце?

— Ты яе чуць павінен. Страляць — на слых. Ляціць...

Стрэл кахнуў нечакана. Я не заўважыў, як Біруля, галавы не адарваўшы ад зямлі, не бачачы той качкі, не цэлячыся, падняў вінчэстэр свой і стрэліў. Рэха пакацілася па возеры, а тут, дзе мы, над намі застаўся, павіс у небе, шолах крыла абмяклага, пяра — у небе. Ніжэй, ніжэй — бац...

— Цяпер ты чуў? — пытаецца Біруля. — Як развідняе, возьмеш пад ясакарам. Гэта табе, маладому пейзажысту, падарунак ад старога пейзажыста Бірулі.

Я ляжу, як сам падстрэлены. Забіты напавал. Абалдзелы. З камяком у горле. А сэрца: бух, бух, бух».

Прачытаў і ўспомніў: АСА — Анатоль Сцяпанавіч Аўчаннікаў, мастак, жыве на станцыі Троіца, як едзеш з Масквы на возера Удомля. Тая ж Удомля.

Успомніў і крыху раздражнёнае пытанне Левітана да Бірулі, яшчэ маладога, настаўніка — да свайго вучня: «Дзе ваш слых? Вось на эцюдах — тое, што я прывык заўсёды ў вас бачыць — слых, а на карціне ён у вас знік».

Левітан ці не першы заўважыў у Бірулі гэты унікальны дар прыроды і баяўся, каб Біруля яго не згубіў, не абясцэніў.

Не, Вітольд Каятанавіч свой дар не згубіў. У яго была любімая фраза: «Слухаць цішыню». Ён умеў цішыню слухаць і чуць. Яна для яго была ў гуках. Яна была музыкай, якая станавілася музыкаю яго пейзажаў.

Цішыню Біруля пісаў не толькі фарбамі, пэндзлем на палатне, але і пяром на паперы. Яна ў яго апавяданні «На лодцы з восцю», якое, на жаль, заляжалася ў архівах.

*«Аксамітна-чорная ноч восені. Цішыня. Падморожвае. Сумна шапоча бляклa-жаўтлявы чарот. Лодка рухаецца ціха. Васіль стаіць у карме з шастом. На носе лодкі жароўня, каза, з насечанымі хваёвымі каранямі — яны, сухія, гараць ярка, асвятляючы постаць Васіля і па баках лодкі бераг, чарот, дно. У вадзе на водмелі ўсё відаць, відаць кожную рыбіну. Іншая стаіць, нібы спіць, іншая шавеліць плаўнікамі — яе насаджваеш на восць. Спалохана, з краканнем, дзе-нідзе цяжка, узлятаюць качкі. На вадзе пішчаць і адразу гаснуць вугалькі, пакідаючы дымок. Рухаемся павольна.*

*— Ваабшчэ, трэба плысці там, дзе мелка і патравяней. Там больш рыбы, — прамаўляе Васіль.*

*Я адказваю яму з усмешкай і тое самае:*

*— Ваабшчэ, дзе больш рыбы, туды і трэба плысці.*

*Рыбы трапляецца сапраўды ўсё болей. У карме лодкі яна блішчыць чырванню, як медзь, асветленая агнём з казы.*

*— Паедзем па бялянцы. Там ваабшчэ шмат бывае ляшчоў.*

*Рухаемся па бялянцы. Сапраўды трапляюцца лешчыкі. Але няма ўдачы — то зрываюцца з восці, то не падпускаюць.*

*На званарні царквы вартаўнік прачнуўся і ўдарыў у звон. Гул адарваўся ад звона і па вадзе панёсся ў лес за возерам. Там ён адгукнуўся і растварыўся ў змроку ночы».*

Цішыню Біруля чуў у гуку, у яго прычыннасці, у кантэксце гуку, а выказваць яе было ўжо справай тэхнікі — у фарбах, у словах.

Ён, як лясун і паляўнічы, ведаў, што абсалютнай цішыні няма, што абсалют яе — у вуху глухара, калі ён чуе адно сябе, што цішыня — падтэкст гуку і адэкватная яму, а гук у прыродзе ёсць заўсёды — яго трэба чуць, каб чуць цішыню.

Біруля чуў — і гук, і цішыню. Не так, як усе. Як мог чуць толькі Біруля.

*ЗЯЛЁНЫ СШЫТАЧАК ГАРТАЮ ДАЛЕЙ.*

САЛЬЕРЫ? І ТУТ ТЫ?.. Сальеры — АСА:

— Я з маленства любіў фарбы, алоўкі, пэндзлікі. Любіў прыроду і дужа хацеў навучыцца яе прыгожа маляваць. І пазней, калі я дазнаўся, што на Удомлі жыве вядомы мастак Біруля, што ў сябе на дачы ён адкрыў школу для сялянскіх дзяцей, вучыць жывапісаць і платы за навучанне не бярэ, бывае, што яшчэ і накорміць, я пайшоў да Бірулі. Прыйшоў — там і застаўся...

Біруля ўзяў Анатоля Сцяпанавіча — АСА — сабе ў вучні. Ён хацеў зрабіць з яго жывапісца. І АСА хацеў стаць жывапісцам. Якім? Ды падобным на Бірулю. Хацеў пісаць, як настаўнік. З ім жыў, паляваў, пераймаў яго звычкі, тэхнічныя прыёмы мастацкага пісьма, завёў сабаку, набыў стрэльбу, назіраў, як любіў гэта рабіць Біруля, настроі прыроды ў розныя поры года, ва ўсякую пагоду. І што ж урэшце? А ўрэшце — Сальеры атрымаўся. Так, АСА — Сальеры.

Я ў яго спытаў:

— А вы любілі Бірулю, калі ў яго вучыліся?

Ён адказаў:

— Як быў малады, дурны, быў да яго прывязаны, як сабака да гаспадара. Цягаў за ім яго паляўнічыя трафеі, мальберты, фарбы. Ездзіў у Маскву па прадукты, атрымоўваў у акадэміі яго грошы. Ён мне давяраў, і я апраўдваў яго давер.

— Давяраў... А ці любіў? Як маэстра — вучня?

— Ну, так. Не быў я ў крыўдзе. У сорак восьмым, памятаю, як Люба, дачка, патанула ў возеры, як пахавалі, праз колькі месяцаў, увосень, быў я ў яго ў Маскве, у доме па Варатнікоўскім завулку. Адтуль дадому ехаў, і ён мяне праводзіў на цягнік. Была позняя восень. Быў галалёд. Я казаў, каб ён сядзеў, што сам знайду вакзал, цягнік. Было ўжо позна, цёмна. А ён дастаў чацвярцінку, наліў мне і сабе. Мы выпілі перад маёй дарогай. Ён шмат не піў, меру ведаў. Мяне правёў, пасадзіў у вагон, з вакзала пайшоў у майстэрню да сваіх карцін. Па дарозе паслізнуўся на лёдзе, моцна ўдарыўся. Крывазліццё ў мозг, інсульт, як цяпер кажуць. І параліч.

— І вы тады былі каля яго?

— Тых сяброў, якія яго акружалі ўсё жыццё, ужо не было. Не было ўжо Маравава, Жукоўскага, Багданава-Бельскага. Сцяпанава — адзін ён з той дружнай чарады застаўся. Побач з ім былі маладзейшыя. Быў і я. Хоць тады ўжо астыў да яго. Можна сказаць, што я яго тады ўжо не любіў.

— Што здарылася?

— Ён ведаў таямніцу і мне яе не адкрыў.

— Якую таяніцу?

— Іншых мастакоў я разумеў, мог у іх вучыцца, але хацеў вучыцца ў яго, а ён мне тэхніку свайго пісьма не перадаў, схаваў ад мяне. Панёс яе з сабою на той свет.

— Якую таямніцу? Якую тэхніку?

— Па азёрах, бывала, ходзім суткамі, з сіл выб'емся, звалімся, дадому дайсці не можам. Вогнішча раскладзём, заначуем каля вады, у лесе. А ён спіць і не спіць. Прачнуся: сядзіць каля цяпельца, галавешку ў агонь падсоўвае, галінку падварушвае, праз агонь у ноч глядзіць, думае, азіраецца, слухае. А што слухае? Дзе і як даўганосік ляціць, хоркае, драч торгае, жаб любіў паслухаць.

Цяпло пагасне, цемра, а ён сядзіць. Пытаецца, пачуўшы, што я не сплю: ці чуеш? як чуеш? што чуеш? чым чуеш? Чым — са здзекам за маю глухату. Можа, не тым месцам чуеш? А я ж не быў глухі. І я быў паляўнічы. Хай малады. Ужо і я ведаў, як Левітан пытаўся: дзе слых? Світае — ён за мальбертам ці за эцюднікам, а я з ім побач. Возера. Туман. Качкі ляцяць. Кажа: пастраляй, а я папішу. А я не хачу страляць, хачу пісаць, як ён. Пішу — не тое. У яго раніца срабрыцца, раса прасвечвае, трымае першы промень сонца, туман на месцы не стаіць, зыбаецца, плыве з ветрам, а ў мяне — кіслае малако, разлілося і стаіць. У яго і ў зеляніне срэбра зззяе, з туманком зеляніна, а ў мяне — зялёнае ці гразь. А перламутравая перспектыва? Што — там? Ніхто так не пісаў. Былі выдатныя пейзажысты, былі Паленаў, Шышкін, Левітан, але іншыя, як Біруля, чорт, — ніхто.

— Вы зразумелі, што таямніцу колеру, гуку, цішыні, якія ў Бірулі, не разгадаеце, і тады яго незалюбілі?

— Незалюбіў. Ён сам жа ведаў, якая пакута — шукаць таямніцу любімага майстра, сам яе шукаў, пакутуючы, у Левітана. Ён — знайшоў? Можа, не ўсё, што хацеў знайсці. Карціна Левітана «Над вечным спакоем» яго вымучвала. Космас, глыбіня, геаметрыя, кампазіцыя. На тым самым месцы, дзе Левітан пісаў свой шэдэўр, паставіў дачу і ўсё жыццё ўглядаўся ў левітанавы неба, зямлю, ваду, іх прапорцыі, у іх настроі пры рознай пагодзе, у розныя поры года і часы дня і ночы, а як Левітан — не змог. «Час цішыні. Возера Удомля» — тут да Левітана блізкі быў, але толькі блізкі. Сваё знайшоў, шукаючы загадку Левітана, сваю таямніцу — дык адкрый жа вучню, каб не пакутаваў, як ты сам? Не адкрыў. Я плакаў, задыхаўся. Ці раўнаваў? Ну, да прыроды, якую сам любіў, люблю. Пачаліся галаўныя болі. Я злёг. Ляжаў у бальніцы. Галавой — у белую сцяну! Якая галава вытрымае? Аб яго срэбра я разбіўся. І ўсё ў ім мне прыкрым стала. Не, я гэтага нікому не казаў і не паказваў. Але гэта так. І яго дом, і Люба, дачка яго, і дабрата яго, і як грашыма смеціў. І яго коні, і сабакі. Зайшоў, памятаю, у канюшню, каб Арла, любімага Бірулевага каня, вывесці, запрэгчы, гляджу, на яго, на звера, і не бяру, не вяду, увесь калачуся, злосны, а конь маю злосць чуе, ад мяне адступае, як ад свае смерці, дык я яго кулаком у храпу, з усёй той злосці. Конь быў ашалеў, захроп, а мне стала лягчэй. Зачыніў вароты і пайшоў на возера, забыўшы, што там Біруля з канём чакае. А то, бывала, загоншчыкам ваўкоў гарэлку выставіць і — за сцяжкі: пайшлі ўлюлюкаць. Не, ён не скупіўся. А спектаклі ў доме Ушакова? А ёлкі калядныя ў Гарусаве? А гулянкі ў «Чайцы»? Музыка, цыганы, рамансы — любіў жыццё! На тройку — і ў Валачок. Гані, мужык! Коней запарыць, тыя — на калені, і мужык, фурман, — на калені, у слёзы, а Біруля мужыку — кашэль з грашыма: не плач, купі новых, не гэтакіх клячаў. І сам — гуляць. Усіх адорыць, апошняе аддасць. А гуляць любіў, умеў. Працаваў і гуляў. Сам — як конь, хоць на балоце, хоць у лесе, у полі са стрэльбаю, хоць за эцюднікам, за мальбертам. Пісаў шмат. Карціны прадаваў. Плацілі добра...

АСА калаціўся. Рукі на каленях, вусны, галава калаціліся. Я спужаўся:

— Супакойцеся...

Ён сядзеў побач са мной на лаўцы каля плота, схапіўшыся за галаву рукамі, гаварыў і гаварыў, усё роўна як ужо не мог спыніцца, не мог не думаць і не гаварыць пра Бірулю.

— А бывае, што «Чайка» сніцца. І Біруля, і Люба. Я ў пакой забег, дзе Люба, а там на люстры рой пчол. Пад роем на канапе яна спіць. Была абслуга, Марыя Патапаўна, павярыха, Фёдар Сцяпанавіч, рабочы, яго дзве дачкі, усе за Любаю глядзелі, а тут — нікога. Я пінжак з плячэй скінуў, схапіў у яго рой і з ім — у сад. А пчолы — на мяне. Я — у возера. Было. І ўсё жыццё я гэта сню.

А Любу з возера як вылавілі? Ва Удомлі жыў доктар, яму Біруля падарыў дзве карціны і стрэльбу. Ён Любу прывёз на падводзе. Яе рыбакі ў сетку злавілі. Ляжала прыгожая, у вавёрчыным футры. Яна футра апранула і — у сваю белую купальню. Біруля ёй купальню пабудаваў на возеры: церам на вадзе! Прыступачкі з-пад белых калон у ваду. Люба па тых белых прыступачках і пайшла на дно ў футры. Была сярэдзіна лета. Чэрвень. Тады яшчэ быў рыжы Лёшка Лістратаў з Дароніна, таксама вучань у Бірулі. Мне кажа: бяжым адсюль, срэбра Бірулева — не ў нашы рукі. І збег, у Керч. Таксама хацеў пісаць як Бірулька. Срэбрам па зеляніне, па ультрамарынчыку. Люба пайшла ў блакітным срэбры, у срабрыстым футры... Вавёрачка срабрыстая.. Актрыска...

АСА ўжо рагатаў. На ўсю вуліцу.

Да нас падбег сусед, што жыў насупраць, схапіў мастака за плечы, прыўзняў з лаўкі і павёў, суцяшаючы, за варотцы.

Рогат і там сціх не адразу.

Сусед вярнуўся да мяне:

— Ну, нічога, з ім гэткае бывае. Я вінаваты, што вас не папярэдзіў, што ён хворы. Добры чалавек, а галава слабая. Яму нельга доўга думаць і гаварыць пра Бірулю.

— Незалюбіў...

— Багатварыў. А потым — зненавідзеў...

З-пад таго плота я паехаў далей, на Удомлю-возера, у «Чайку». Едучы праз лес і поле, усё чуў той рогат.

Той рогат быў усё ж рогатам Сальеры, які ад зайздрасці аж страціў галаву.

І СЛОВА мае высокі сэнс, калі яно свабоднае. Тады яно — літаратура. А дзе свабоднае, як не ў жыцці свабодным?

Чаму пра гэта думаю, чытаючы Бірулю?

*«Сетка напаўняецца даўганосікамі — цёплымі камячкамі ў ржавых пярынках. Мы спыняемся каля стога. Сабака спрабуе зашыцца ў сена. Кум Фёдар пачухаўся пад стогам і заснуў. Я гляджу на яго глыбакадумны твар і разважаю моўчкі: трэба яму, звыш таго, вусы абрэзаць.*

*Кум храпе.*

*Спіць і сабака».*

Калі б я жыў гэтак, у прыродзе, то і мяне б, магчыма, знайшоў ліст якога-небудзь сучаснага Рэпіна?

«Я так прывык асвяжацца душою перад Вашымі жывымі павевамі праўды, прастаты і свабоды».

Цяпер я разумею цану Бірулевага «Малю Вас» — да Антаніны Шчокатавай:

«Мілая, найдабрэйшая Антаніна Мікалаеўна!

У Вас знаходзіцца ліст Рэпіна да мяне...»

О, як ён, бязбоязны, спалохаўся, што ліст Рэпіна можа згубіцца! І якую страту, не маючы рэпінскага вызначэння Бірулевага таленту, панеслі б мы, беларусы!

А там, у Рэпіна, таксама ж пра свабоду. Там кожнае слова — ад свабоды: і праўда, і прастата...

Вось і кажу: жыць трэба ў прыродзе, як Біруля. Тады — і слова. Тады — і колер. Тады — і гук. Тады — і цішыня.

Тады — усе яны спавітыя свабодай.

**(Заканчэнне будзе).**

## «ПЯЦЬ ЛЫЖАК ЗАЦІРКІ» «ГУЧАЦЬ» І СЁННЯ

110 гадоў назад на Лагойшчыне, ў беднай яўрэйскай сям'і нарадзіўся хлопчык, якому суджана было стаць гонарам беларускай літаратуры. Самуіл Яфімавіч Плаўнік абраў сабе каларытны, зразумелы простаму люду гаротны псеўданім — Змітрок Бядуля. З ім і ўвайшоў у вечнасць. Калі мы называем пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры — Купалу, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, поруч ставім і гэтага самабытнага мастака слова. Са школьных гадоў у нашу свядомасць западаюць вершаваныя і празаічныя творы Бядулі, асабліва апавяданні «Пяць лыжак зацiркі», «Малыя дрывасекі», «На каляды к сыну»... Сітуацыя, пададзеная ў «Пяці лыжках зацiркі», вельмі ж сугучная стану і настрою шмат якіх сем'яў і сёння.

Пра выдатнага і непаўторнага майстра мастацкага слова з нагоды яго 110-й гадавіны ішла гаворка на вечарыне, што адбылася ў Дзяржаўным музеі Якуба Коласа. Першым выступіў народны пісьменнік Беларусі, акадэмік Іван Навуменка. З асаблівай увагай слухалі прысутныя сына Змітрака Бядулі Яфіма Самуілавіча. Ён, у прыватнасці, прыгадаў, што род Плаўнікаў быў музыкальны. Бацька добра іграў на скрыпцы, дзядзька — на піяніна. І яго, маленькага, навучыў.

**Кастусь СЦЕРАНЮК.**

## НАВУКОВУЮ БУДУЧЫНЮ БЕЛАРУСІ ПРАДСТАЎЛЯЮЦЬ ЛІЦЭІСТЫ БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА

На міжнародную навуковую канферэнцыю ў Будапешт адправілася дэлегацыя навучэнцаў ліцэя пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Будучыя вучоныя прачытаюць для сваіх замежных равеснікаў даклады па фізіцы, матэматыцы, інфарматыцы, экалогіі. Рабочая мова канферэнцыі — англійская. Але для вучняў ліцэя гэта, вядома ж, не перашкода. Юныя фізікі і матэматыкі, знаўцы іншых дысцыплін, дзякуючы якраз гэтаму, праходзяць як быццам два выпрабаванні — на веданне і прадмета, абранага для даследавання, і замежнай мовы.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ГЭТА ПАМЯЦЬ ІЗНОЎ — АД ЗАРЫ ДА ЗАРЫ

Мы яшчэ доўга будзем глядзець адзін аднаму ў вочы і сустракаць нямое «Помні». І дзецям будзем наказваць, каб памяталі. Памяць беларускай нацыі, на жаль, пафарбавана ў чорны колер — трагедый гэтая зямля пабачыла шмат. Толькі ад апошняй ніяк не можа адысці ўжо дзесяць гадоў. У Дзяржаўным маладзёжным тэатры Беларусі адбылася прэм'ера спектакля «Помні». Але, калі быць праўдзівай, — хутчэй, нават не спектакль гэта, а тэатралізаваная бываліца. Дзея, што адбываецца на вачах у гледачоў, заснавана на сапраўдных падзеях і фактах з жыцця дзяцей, што перажылі чарнобыльскую трагедыю і пабывалі ў Германіі. Маленькія істоты, да лёсу якіх мы дакранаемся, усяго толькі імкнуцца адстаяць свае права на жыццё. Іх гісторыі даносяць таксама дзеці, вучні мінскіх школ. Ідэя такога спектакля належыць Веры Багалянц, прадстаўніцы інстытута Гётэ ў Мінску, ажыццявілі яе ў тэатры Ангеліка Штаўт (Германія) і Валянціна Епанькова (Беларусь). Сумесны тэатральны праект заснавалі Інстытут Гётэ ў Мінску і Міністэрства культуры рэспублікі Беларусь. Сумесны праект — каб у сэрцах людзей жыла памяць пра нашу бяду. І каб сумесна ратаваць нашых дзяцей — дзяцей Зямлі. Таму што Чарнобыль — бяда Зямлі.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*З ЮБІЛЕЕМ!*

# Дэкан. Настаўнік. Чалавек!

**Доктару гістарычных навук, прафесару Рыгору Булацкаму — 75 гадоў**



У яго зайздросны лёс. Больш як паўстагоддзя(!) вучыў і вучыць Рыгор Васільевіч Булацкі журналістаў — людзей апантаных, высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія, як пяецца ў папулярнай сярод нас песні, гатовы: «Трое суток не спать, трое суток шагать ради нескольких строчек в газете...»

Няма сёння ў Рэспубліцы Беларусь ніводнага рэдакцыйнага калектыву, у якім не было б выхаванцаў Рыгора Васільевіча. Наша родная «Звязда», напрыклад, укамплектавана яго вучнямі практычна на ўсе сто працэнтаў. Тая ж карціна ў «Народнай газеце» і «Советской Белоруссии», «Белорусской ниве» і «Рэспубліцы», «Чырвонай змене» і «Знамени юности», на Беларускім тэлебачанні і радыё... Тая ж карціна і ў іншых рэдакцыях газет і часопісаў, тэле- і радыёкамітэтаў: ад Гродна і Брэста да Хоцімска і Добруша, ад Верхнядзвінска і Гарадка да Лельчыцаў і Нароўлі...

Сёння наш любімы і паважаны Настаўнік, першы і самы галоўны Сябар і Дарадчык Рыгор Васільевіч Булацкі прымае віншаванні. Здароўя і доўгіх гадоў жыцця Вам, дарагі Рыгор Васільевіч! Ведайце: Вашы вучні ганарацца Вамі, Вашай навукай і спагадай да нас. Тое, што Вы зрабілі для беларускай журналістыкі — і як шматгадовы дэкан факультэта журналістыкі БДУ, і як прафесар, і як проста Чалавек, — у нашых штодзённых справах, набытках і здзяйсненнях.

**Звяздоўцы.**

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

# АРЫШТАВАНЫЯ ПАТРОХУ ПАКІДАЮЦЬ КАМЕРЫ

Паводле інфармацыі, якая была ў рэдакцыі на 2 мая, некалькі дзесяткаў чалавек з затрыманых міліцыяй і спецслужбамі 26 красавіка, ужо адбылі свае пяцісутачныя тэрміны зняволення або выплацілі 200-тысячныя штрафы ці ўвогуле былі адпушчаны з-за адсутнасці саставу злачынства. Частка з іх паспела сустрэцца з журналістамі і расказаць аб абставінах свайго затрымання і ўмовах у месцах зняволення. Паводле інфармацыі, атрыманай ад саміх асуджаных, што адбылі свае тэрміны, большасць атрымала пяці- і дзесяцідзённыя тэрміны. А вось у адносінах да намесніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі і сакратара ўправы Вячаслава Сіўчыка рыхтуецца крымінальная справа. Як паведаміла жонка Ю. Хадыкі, па арт.186.3 Крымінальнага кодэксу. Яе муж знаходзіцца ў следчым ізалятары на вул. Валадарскага. Там 2 мая быў праведзены пікет прыхільнікаў БНФ.

30 красавіка былі выпушчаны на волю намеснікі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі і Вінцук Вячорка. У той жа дзень на прэс-канферэнцыі ў актавай зале штаб-кватэры БНФ, у той час як у астатніх пакоях рабіўся вобыск, Л. Баршчэўскі адзначыў:

— Самы абуральны факт майго затрымання. Білі моцна, па спіне. Калі мы спыталі, куды нас вязуць, нам адказалі, што ў Курапаты. Трымалі нас, трынаццаць чалавек, у актавай зале, прычым пяць было выпадковых, якія не прымалі ўдзелу ў шэсці. Суд быў скоры і «правы», суддзі сядзелі проста ў турме, у вольных камерах...

В. Вячорка паведаміў, што яго затрымалі 27-га людзі з чорнай «Волгі», пры гэтым пабілі акуляры, а ў следчым аддзеле гарадской пракуратуры яму прапанавалі запоўніць анкету ў якасці сведкі.

— У суботу вечарам я даведаўся, што я падазраваемы, потым выявілася, што супраць мяне мала ўлікаў... — адзначыў В. Вячорка.

Мінчанка Ірына Важнік была затрымана пасля таго як выклікала «хуткую дапамогу» Міколу Анцыповічу і вырашыла паведаміць аб яго лёсе ў БНФ. Яна паведаміла пра тое, што спецслужбы затрымалі карэспандэнта ўкраінскага тэлебачання Наталлю Чангулі і яе калег — апаратара і рэжысёра. Язэп Янушкевіч прадэманстраваў прысутным акрываўленую хусцінку, куды ён адхарквауся пасля збіцця, і не вытрымаўшы заплакаў...

Малады мінчанін Мікалай Івасюк, які быў сведкам аднаго з жорсткіх затрыманняў, зазначыў, што ён не быў прыхільнікам ні БНФ, ні камуністаў, аднак пасля ўсяго ўбачанага ён гатовы перайсці на бок тых людзей, якія ішлі пад бела-чырвона-белымі сцягамі...

Тым часам сапраўдны скандал разгарэўся вакол украінскіх грамадзян, затрыманых 26 красавіка. Са спецыяльным пратэстам супраць таго, што беларускі бок не паведаміў аб іх лёсе, у консульскі аддзел нашага МЗС звярнулася пасольства Украіны. Усяго паводле інфармацыі ўкраінскага консула Усевалада Калоція, было затрымана 10 грамадзян Украіны. Вызвалілі пакуль што толькі Н. Чангулі. Пасольства пакуль не ведае, ці адбыліся суды над грамадзянамі Украіны, але ад беларускага боку было тлумачэнне, што яны абвінавачваюцца за дробнае хуліганства і інш.

Як паведаміў вызвалены 2 мая сакратар управы БНФ Віктар Каролік, частка ўкраінскіх грамадзян аб'явіла сухую галадоўку, некаторыя адмаўляюцца даваць паказанні на рускай мове і патрабуюць перакладчыка...

Міністр замежных спраў Беларусі У. Сянько на брыфінгу 2 мая зазначыў, што ўкраінскія грамадзяне мэтанакіравана ўдзельнічалі ў акцыі і што іх затрыманне цалкам абгрунтаванае. МЗС Беларусі звярнуў на гэта ўвагу МЗС Украіны, але наша знешнепалітычнае ведамства не звязвае гэты інцыдэнт з палітыкай украінскай дзяржавы.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# УКРАІНСКІХ ТЭЛЕЖУРНАЛІСТАЎ ЗАТРЫМАЛІ РАЗАМ З АСТАТНІМІ...

*Сярод затрыманых 26 красавіка дэманстрантаў была брыгада тэлежурналістаў з Украіны: карэспандэнты УТН Наталля Чангулі, апаратар Любамір Чумакоў, рэжысёр Сцяпан Мярцала. 29 красавіка Наталля Чангулі была вызвалена, у многім дзякуючы намаганням супрацоўнікаў украінскага пасольства ў Мінску. У адной з мінскіх гасцініц яна чакала, калі ж выпусцяць і яе апаратара з рэжысёрам. Карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з ёю і папрасіў расказаць пра абставіны яе затрымання.*

— З ведама свайго кіраўніцтва я і апаратар прыехалі 26 красавіка ў Мінск цягніком з Кіева. Потым да нас далучыўся Сцяпан Мярцала, які прыехаў на машыне. Прыехалі ж мы за свой кошт, разлічваючы расходы пакрыць за кошт ганарара.

**— Што вы паспелі зняць?**

— Плёнку я яшчэ не праглядвала, яе забралі. Здымалі мы шэсце, мітынг, нешта ў горадзе, рабілі інтэрв'ю. Пасля першай бойкі дэманстрантаў з міліцыяй апаратар сказаў, што за камеру ён ужо не адказвае... Калі мы закончылі сваю працу, да нас падышоў чалавек і сказаў, што, паводле яго інфармацыі, украінцаў будуць браць у першую чаргу. Дварамі мы пайшлі да сваёй машыны. Выявілася, што ў ёй прабіта кола. Спачатку мы і не падумалі, што гэта было невыпадкова... Пакуль мянялі кола, дзяліліся ўражаннямі, прайшло нямала часу. І ў пачатку дзесятай раптам да нас пад'ехаў нейкі аўтобус, з яго выбеглі людзі ў чорных масках, узброеныя аўтаматамі, дубінкамі, яны пачалі грукаць імі па машыне і патрабаваць, каб мы адчынілі дзверы. Хлопцаў яны выцягнулі з машыны, кінулі на зямлю, ударылі іх некалькі разоў. Я ўвесь час крычала, што мы журналісты, але пасведчанняў у нас ніхто не спытаў. Мяне, праўда, не білі, выцягнулі за валасы, кінулі ў аўтобус... Потым аўтобус яшчэ ездзіў, збіраў іншых, каля кожнага з нас сядзеў ахоўнік у чорным...

**— Як абыходзіліся з вамі ў месцы затрымання?**

— Нас прывезлі ў Цэнтральны РАУС. Абшукалі. Хлопцам зноў дасталося. Але мяне не білі. Пасля нас адвезлі ў Ленінскі РАУС, паставілі тварамі да сцяны, рукі за галаву. Апаратару ля сцяны месца не хапіла, яго кінулі на падлогу і скрыжавалі ногі па-турэцку... Пасля перавезлі ў спецізалятар-размеркавальнік, праводзілі ўсякія допыты і ўвесь час абяцалі, што вось- вось прыедзе прадстаўнік пасольства... Але ніхто не прыязджаў. 27-га мне гэта ўсё надакучыла і я аб'явіла галадоўку. Сцяпан Мярцала таксама. Нас здымалі ў анфас і профіль, бралі адбіткі пальцаў... Адзін з украінцаў, Андрэй Шапціцкі, аб'явіў сухую галадоўку, быў ён ужо ў дрэнным фізічным стане, але ўрача не выклікалі. Потым я напісала заяву пратэсту на імя Генеральнага пракурора Беларусі.

**— Як вас адпусцілі?**

— Адпусцілі мяне ў другой палове дня са штрафам. Суд адбываўся проста ў турме, закрыты, «тройкай» (іх сапраўды было тры чалавекі). Я патрабавала прадстаўніка пасольства, але маё хадайніцтва адхілілі, палічыўшы, што ён не патрэбен. Мне паказалі пратакол, якога я ў вочы не бачыла, дзе было напісана, што я білася з міліцыяй, парвала ім форму, нецэнзурна лаялася... Віну сваю я не прызнала. Мяне спыталі, як гэта вы, журналіст, прыехалі ў чужую краіну і здымаеце... Я адказала, што ўезд бязвізавы, акрэдытацыя для вулічнай здымкі не патрэбна, гэта не зона баявых дзеянняў і не прыём ў прэзідэнта... У вогуле, абвінавацілі мяне ў дробным хуліганстве і пакаралі штрафам у 200 тысяч. Потым ка мне прыехаў консул... На наступны дзень прывезлі і рэжысёра з апаратарам. Пасля таго, як яны прынялі ў гасцініцы душ і крыху перакусілі, супрацоўнікі пасольства адвезлі іх у Ленінскі РАУС, каб забраць рэчы. Але іх там зноў затрымалі, нягледзячы на пратэсты консула. Іх піхнулі ў машыну і зноў павезлі ў турму, консула туды не пусцілі... Вось так у вас адносяцца да журналістаў і дыпламатаў. Цяпер я сяджу і чакаю, калі вызваляць маіх калег.

***

Як паведаміў украінскі консул у Мінску Усевалад Калоцій, 3 мая карэспандэнт Нацыянальнай тэлекампаніі Украіны Наталля Чангулі, яе апаратар і рэжысёр пакінулі межы Беларусі і адбылі ў Кіеў. Адносна астатніх украінскіх грамадзян ён зазначыў, што ўсе яны асуджаны на тэрмін ад 10 да 15 сутак за ўдзел у несанкцыяніраваным шэсці, дробнае хуліганства і інш. 2 мая ўкраінскі консул змог сустрэцца з арыштаванымі, частка з іх галадала, патрабуючы сустрэчы з прадстаўнікамі пасольства. Консул здолеў пераканаць усіх, акрамя аднаго грамадзяніна, спыніць галадоўку. На думку Калація, апошні грамадзянін Украіны будзе вызвалены 11 мая.

Тым часам карэспандэнт «Звязды» паспрабаваў атрымаць каментарый да факта затрымання ўкраінскіх журналістаў у Мінску ў прадстаўнікоў беларускіх праваахоўных органаў. Давялося звязвацца па тэлефоне са шматлікімі службовымі асобамі МУС, гарадскога УУС, гарадской пракуратуры, у прыватнасці, наш карэспандэнт размаўляў з намеснікам міністра Крэчкам, першым намеснікам начальніка УУС г. Мінска Міхалковічам, супрацоўнікам УУС Плоткіным, з прэс-цэнтрам МУС, служачымі ў прыёмных міністра і пракурора горада. На жаль, ніхто не змог даць патрэбных каментарыяў, адсылаючы да ўсё іншых і іншых супрацоўнікаў, якіх не аказвалася на месцы. Тэлефон у кабінеце пракурора горада таксама не адказваў. Нягледзячы на гэта, «Звязда» лічыць неабходным пазнаёміць сваіх чытачоў з пунктам погляду праваахоўных органаў Мінска на гэтае здарэнне і прапануе плошчу на сваіх старонках у любым з бліжэйшых нумароў.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ДАТЫ*

# ЖУРНАЛІСТАМ СТАЛА НЯЎТУЛЬНА НА БЕЛАРУСІ?

У шэрагу шматлікіх майскіх святаў, гэтае стаіць адасоблена. Яно прыпадае на 3 мая і вядома вельмі вузкай катэгорыі людзей — Дзень міжнароднай салідарнасці журналістаў.

Праўда, цяжка назваць гэты дзень святам, бо звычайна падчас яго прынята ўспамінаць сумныя і нават трагічныя падзеі: факты забойства журналістаў, рэпрэсій у дачыненні да іх парушэння правоў. Паводле даных французскага агенцтва «Рэпарцёры без граніц», у 1995 годзе ў свеце быў забіты 51 журналіст, які выконваў свой прафесіянальны абавязак, яшчэ 45 загінулі без вестак, 386 падвергліся арышту (з іх 127 — на тэрыторыі дзяржаў Еўропы і СНД). Па стану на 1 красавіка бягучага года 106 чалавек яшчэ знаходзяцца за кратамі. Для большай часткі журналістаў, якія загінулі на тэрыторыі СНД, месцам іх апошняга рэпартажу стала Чачня. Але адна справа, калі журналіст гіне на вайне (куля, як вядома, дурніца), і зусім іншая — калі ў будынку рэдакцыі ці наогул дома. Успомнім Дзіму Холадава і Улада Лісцева, забойствы якіх не раскрыты да гэтага часу.

Але што Расія. Нават у нашай, здаецца, спакойнай Беларусі ў 1994 годзе 9 сакавіка быў забіты спецыяльны карэспандэнт спартыўнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання Аляксандр Чуланаў, а 29 жніўня ва ўласнай кватэры забойцы застрэлілі рэдактара газеты «Тур-инфо» Анатоля Гулага. Дзякуй Богу, мінулы год абышоўся без ахвяр. Затое выпадкаў парушэння правоў журналістаў у Беларусі больш чым дастаткова. Наша краіна ў гэтай сумнай статыстыцы амаль што лідзіруе. Заходнія праваабарончыя арганізацыі выказваюць моцную занепакоенасць станам сродкаў масавай інфармацыі і, у прыватнасці, журналістаў. Напрыклад, у штогадовай справаздачы таго ж агенцтва «Рэпарцёры без граніц» Беларусі прысвечана амаль пяць старонак.

Сёння хочацца засяродзіць увагу якраз не на журналісцкай салідарнасці. Гэты тэрмін, дарэчы, па-рознаму ацэньваецца. Як вядома, у журналістыцы існуе моцная канкурэнцыя за права атрымаць і перадаць інфармацыю хутчэй за астатніх, таму ў будзённай працы часта бывае не да салідарнасці. Гэта пачуццё з'яўляецца толькі перад тварам глабальнай небяспекі для СМІ. Таму сёння трэба гаварыць пра адносіны грамадства і ўладаў да прэсы, нагадаць артыкулы Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», якія даюць журналістам права на свабоднае атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі. У нас жа стала звычайнай з'явай, калі нашага брата беспардонна «адфутбольваюць» у розных міністэрствах ды ведамствах. Іншы раз можна дзень абіваць парогі альбо «праседзець на тэлефоне», так і не высветліўшы таго, што цябе цікавіць. У краіне, я сказаў бы, існуе нейкая запалоханасць ды насцярожанасць. Чыноўнікі, якія валодаюць той ці іншай інфармацыяй, патрэбнай чытачу, баяцца без дазволу «зверху» прадаставіць яе журналістам, асцерагаючыся наступстваў падобнага кроку. У той жа час чытачы скардзяцца на нецікавыя і сухія газеты.

Успамінаючы нядаўнія мітынгавыя падзеі ў Мінску, таксама нельга не нагадаць пра адносіны да журналістаў. Як вядома, прадстаўнікі СМІ аказаліся катэгорыяй, якая найбольш пацярпела ў бойках. Безумоўна, у надзвычайных і складаных сітуацыях цяжка разабрацца, хто ёсць хто. Але як апраўдаць тое, калі разбіраюць камеры тэлеапературам ды фотарэпарцёрам, калі б'юць па галаве гумавай палкай чалавека, у якога на штрыфелі прышпілена журналісцкае пасведчанне? Дарэчы, часта на гэтае тваё пасведчанне глядзяць з пагардай, бо сёння журналістаў успрымаюць не больш чым «пісак».

Апошні прыкры факт здарыўся 1 мая. У здымачнай групы тэлекампаніі НТБ на плошчы Незалежнасці ў Мінску сярод белага дня людзі ў цывільным адабралі адзнятыя касеты.

Учора ў Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя, арганізаваная пастаяннай камісіяй парламента, якая курыруе пытанні правоў чалавека, галоснасці і СМІ. Акрамя кіраўніцтва камісіі на сустрэчы прысутнічалі пацярпеўшыя журналісты Аляксандр Ступнікаў (НТБ) і Леанід Свірыдаў (РТР). Аказалася, што спецслужбы спрабавалі забраць адзнятыя матэрыялы не толькі ў супрацоўнікаў Незалежнага тэлебачання, але і ў журналістаў Расійскай тэлерадыёкампаніі. У той жа дзень, як паведаміў Аляксандр Дабравольскі, было затрымана некалькі журналістаў, сярод якіх былі фотарэпарцёры «Народнай газеты» і «Рэспублікі» Марыя Жылінская і Аляксандр Кушнер. Ім таксама засвяцілі фотаплёнку. Дарэчы, А. Кушнер сцвярджае, што ініцыятар іх затрымання яму вядомы — адзін з ахоўнікаў Прэзідэнта. Былі на прэс-канферэнцыі прыгаданы і выпадкі затрымання журналістаў падчас мітынгу 26 красавіка. У прыватнасці, па звестках падкамісіі па галоснасці і СМІ, за краты трапілі Уладзімір Дзюба з Беларускага радыё і Алег Трызна з «Феміды». Спадара Дзюбу прычым асуджалі двойчы: спачатку на 3 сутак, потым — на 15.

«Зараз нас ужо хвалюе не столькі сітуацыя са станам сродкаў масавай інфармацыі, колькі персанальна з журналістамі», — сказаў у заключэнне А. Дабравольскі. Больш жорсткія заявы адносна становішча прэсы ў Беларусі прагучалі з вуснаў выканаўчага сакратара Беларускай асацыяцыі журналістаў Ігара Рынкевіча. Ён ахарактарызаваў сітуацыю як «інфармацыйны таталітарызм».

Адказваючы на пытанне калег, што збіраецца рабіць А. Ступнікаў у сувязі з канфіскацыяй касет, ён адказаў, што заяву ў міліцыю ён не падаваў, бо лічыць, што адбыўся разбойны грабеж, таму крымінальную справу павінна ўзбудзіць сама Пракуратура Рэспублікі Беларусь. Сам жа ён адзначыў, што пасля гэтага здарэння ў Беларусі стала працаваць яшчэ цяжэй. Ён ужо асцерагаецца выходзіць з камерай на вуліцу.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## НА «МІНСКІМ АЎТАСАЛОНЕ-96» БУДЗЕ ПРАДСТАЎЛЕНЫ СЛОНІМСКІ АЎТАМАБІЛЬ

«Навічок», які атрымау неафіцыйную назву «Сланяня», зроблены на базе ІЖ-2715 і М-412. На іх ставіцца кузаў уласнай вытворчасці — адкрыты, тэнтаваны, ізатэрмічны. У перспектыве будзе яшчэ адзін — адкідны, прызначаны для транспарціроўкі сыпучых грузаў. Чакаецца, што такая разнастайнасць кузаваў забяспечыць «Сланяняці» вялікі попыт як у прыватных асоб, так і ў прадпрыемстваў і арганізацый. Акрамя таго, у навінкі даволі прымальная цана, аўтамабіль непатрабавальны ў эксплуатацыі і прыдатны для мясцовых умоў. Пакуль выпушчана невялікая доследная партыя, аднак першыя экземпляры ўжо знайшлі сваіх уладальнікаў.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

**СЁННЯ**

## СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 5.28 | 20.45 | 15.17 |
| Віцебск — | 5.13 | 20.40 | 15.27 |
| Магілёў — | 5.17 | 20.34 | 15.17 |
| Гомель — | 5.18 | 20.28 | 15.10 |
| Гродна — | 5.42 | 21.01 | 15.19 |
| Брэст — | 5.50 | 20.54 | 15.04 |

## МЕСЯЦ

**Поўня 3 мая.**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Фёдара, Ісакія, Максіміяна**
**К. Уладзіслава, Фларыяна-мучаніка**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, у заходніх і цэнтральных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне — 17—19, Брэсце — 19—21, Мінску, Віцебску — 22—24, Магілёве — 23—25, Гомелі — 24—26 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак захаваецца пераменная воблачнасць, у паўночна-заходніх раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы 5-га — 4—9, 6-га — 2—7, удзень — 15—19 градусаў цяпла.

## ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ — НАРОДНАМУ ПАЭТУ

Белдзяржуніверсітэт можа па праву называцца кузняй беларускіх паэтаў. Дзесяткі імёнаў майстроў вершаванага слова звязаны са старэйшай ВНУ краіны.

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін — таксама выпускнік БДУ (у 1959 годзе закончыў філалагічны факультэт). А днямі вядомаму мастаку слова ўручаны дыплом ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Адзначана, што такога гонару Рыгор Барадулін удастоены за выдатныя дасягненні ў беларускай паэзіі і айчыннай філалогіі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## КАМАРОЎКА ПРАЦУЕ ПА НОВАМУ

Як кажуць, добра тое, што ў меру. Святы ж, што апошнім часам ідуць адно за адным, літаральна выбілі з каляіны ўсё і ўся. Вось і Камароўка ў чарговы раз «радуе» пакупнікоў: у святочны дзень 9 мая рынак будзе працаваць па скарочанаму графіку — да 16 гадзін.

Дарэчы, як паведамілі ў адміністрацыі рынку, з 1 мая Камароўка змяняе графік працы. Цяпер рынак будзе працаваць з 7 гадзін раніцы да 19 гадзін вечара (раней — з 8 да 18 гадзін).

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# ЛІЛЕЯ НА ЦЁМНАЙ ВАДЗЕ

Боль...

Шчымлівы, вярэдлівы боль. Ён працінае ўсю істоту, здаецца, паралізуе цела, нішчыць думкі, спапяляе душу. Часам надрыўны, нават рэжа слых. Часцей маўклівы, затоены, знясільваючы. Боль, ад якога няма забыцця ўдзень, няма паратунку і ноччу. Горкі боль ад асэнсавання таго, што трагедыі магло не быць, а цяпер яна пацягнецца ў стагоддзі.

Марына адчула гэты непазбыўны боль, іскаркай ён вырваўся з паэтычных радкоў, вогнікам успыхнуў у яе чуйнай душы. Не, не за гарамі яна жыла, добра ведала жахлівасць гэтай злавеснай трагедыі. Аднак у штодзённых клопатах неяк усё адплывала на другі план: свае клопаты-перажыванні запаўнялі дні і ночы. Цяпер Марына ўчыталася ў вершы, раздумвала над паэмаю — імкнулася асэнсаваць іх, уявіць у музычным увасабленні. Паэтычныя творы вярталі яе да рэчаіснасці.

Кнігу паэзіі «Дні мае залатыя» Міхася Башлакова, чарнобыльца, зведаўшага на сваім лёсе цяжар катастрофы, перадаў Марыне Алесь Петрашкевіч. Было гэта вясною 1995 г. Ён працаваў над п'есаю « Не бярыце аўцюка голай рукой» (паводле матэрыялаў Уладзіміра Ліпскага). Ён прапанаваў Марыне зрабіць музычнае афармленне будучага спектакля.

Драматург уважліва сачыў за развіццём творчасці Марыны Марозавай. Ён ведаў маладога кампазітара з таго часу, калі яна была студэнткай, па яе творах, напісаных яшчэ ў 80-я гады, — кантаце «Муха-цакатуха», балеце «Стойкі алавяны салдацік», рамансах на вершы Аляксея Кальцова, на беларускія народныя тэксты. Ён параіў напісаць музычны твор паводле матываў жывапіснага цыкла Міхаіла Савіцкага «Лічбы на сэрцы» — і Марына напісала квартэт. Алеся Лявонцьевіча ўражвала яе смеласць у працы, сур'ёзны намер паспаборнічаць з класікамі і захапляла глыбіня распрацоўкі тэмы, што сягала ў філасофскую абагульненасць, стрыманая пяшчотнасць.

Падчас адной з сустрэч ён параіў звярнуцца да паэзіі Міхася Башлакова. ... Тэкст зачараваў яе. Гэта былі асобныя строфы з апошняй часткі «На апошняй зямлі» паэмы «Лілея на цёмнай вадзе», напісанай паэтам у 1987—1990 гадах. У іх выказаны агульны боль, перададзены і асабістыя перажыванні. У любой сітуацыі, нават самай напружанай, самай драматычнай, нельга пратрымацца, выстаяць, трэба жыць з надзеяй. Надзея — гэта і асабістая вера, і вера ў прыродную справядлівасць, спагаду, светласць. Вобраз надзеі паўставаў у выглядзе таямнічай кветкі лілеі.

Летам 1995 года Марына закончыла працу над песняй «Лілея на цёмнай вадзе». Яе прэм'ера адбылася на радыё ў лютым гэтага года. Малады выканаўца Андрэй Чалапа (выдатны акардэаніст, лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя І. Жыновіча) імкнуўся перадаць тыя перажыванні, што ішлі ад кампазітара, паэта. Уражанні ад успрымання песні падзяліліся: адным хацелася адчуць большае напружанне ў выяўленні невымернага болю; другім бачылася спакойная, нават прыглушаная перадача пачуццяў. Аднак і паэт, і кампазітар цёпла ўспрынялі Андрэеву інтэрпрэтацыю песні.

Песня знайшла станоўчы водгук у многіх слухачоў. Мастачка Вольга Дзёмкіна паводле матываў гэтага твора выканала габелен, які з поспехам экспанаваўся на апошняй традыцыйнай выставе «Пагоня»...

Боль заціхае, трасфармуецца, выліваецца ў канкрэтную справу. Праца прымушае забыцца пра боль, выклікае надзею, жывіць веру. У працы нараджаецца любоў... Жыццё прадаўжаецца...

**Міхась ШАВЫРКІН.**




## ЛІЛЕЯ НА ЦЁМНАЙ ВАДЗЕ

*Тэкст Міхася БАШЛАКОВА*
*Музыка Марыны МАРОЗАВАЙ*

*Я стаміўся блукаць...*
*Як на страшным судзе,*
*Пакідалі апошнія сілы...*
*Я маліў,*
*Каб наперадзе мне*
*Засвяціла*
*Лілея на цёмнай вадзе...*
*Лілея на цёмнай вадзе...*

*Змрок мяне ахінаў...*
*У густым гушчары*
*Ні прасвету,*
*Ні нават надзеі...*
*Я шукаў,*
*Я шукаў на туманнай зары*
*Серабрыстую гэту лілею...*
*Серабрыстую гэту лілею...*

*Ах, як цёмна вакол.*
*Хоць бы промень які*
*Мне заззяў бы*
*Апошняй надзеяй...*
*Ні Радзімы...*
*Ні мовы...*
*Ні сябра рукі...*
*Ні апошняй на свеце лілеі...*
*Ні апошняй на свеце лілеі...*

*Божа, змілуйся...*
*Дзе я?*
*На страшным судзе?*
*Дык чаму ж*
*Адымаеш ты сілы?*
*Дай дайсці мне...*
*Наперадзе там*
*Засвяціла*
*Лілея на цёмнай вадзе...*
*Лілея на цёмнай вадзе...*

# УСХОДНІ ГАРАСКОП

***З Дэлі перадае кар. ІТАР-ТАСС Юрый Казьмін***

КАЗЯРОГУ зоркі раяць больш часу правесці ў гэтыя дні дома. Службовыя ж справы вы можаце на час адкласці. Гэта звязана з тым, што вы павінны будзеце ў бліжэйшы час удзяліць больш увагі адносінам з членамі сваёй сям'і. Таксама пастарайцеся пазбягаць значных ускладненняў у адносінах з сябрамі, магчыма, што адзін з іх можа паспрабаваць уцягнуць вас у канфлікт.

ВАДАЛЕЯ могуць паспрабаваць падмануць на значную суму. Таксама вам неабходна ўстрымлівацца ад імпульсіўных учынкаў. Будзьце вельмі ўважлівыя на вуліцы, можна атрымаць траўму. У службовых справах усталёўваецца застой, але ў бліжэйшыя дні вашы новыя знаёмыя могуць прапанаваць вам выгадны кантракт. Можаце смела падпісваць яго, ён забяспечыць вам прыбытак.

У гэтыя дні РЫБЫ зноў апынуцца ў рэчышчы, якое прывядзе іх да поспеху. Зоркі спрыяюць вам і акажуць садзейнічанне ў розных пачынаннях. Пастарайцеся завязаць новыя карысныя для вас кантакты. Разлічвайце ў вашых учынках на інтуіцыю, якая ўкажа вам правільнае рашэнне. У хатніх справах у вас парадак, вас цэняць за працавітасць. Магчыма, у выхадныя вы атрымаеце каштоўны падарунак.

Для выканання даручанага задання АВЕНУ прыйдзецца сканцэнтравацца. Планеты дапамогуць вам прыняць правільнае рашэнне. Для супрацоўнікаў дзяржаўных устаноў магчыма павышэнне заработнай платы. Асабліва важна ў гэтыя дні праверыць ўсе дэталі будучай здзелкі. У некаторых з вас з'явіцца магчымасць атрымаць вялікія дывідэнды ад нядаўна падпісанага кантракта. У выхадныя лепш адпачыць на прыродзе.

У ЦЯЛЬЦА, магчыма, з'явіцца сапернік у справах бізнесу. Вы зможаце значна палепшыць свой бюджэт за кошт продажу каштоўных папер. Дастаткова складаныя адносіны ў сям'і ў маладой жанчыны, якая ўдзяліла вельмі многа ўвагі выкананню заданняў на новай службе. Зможаце палепшыць адносіны пасля таго, як аддасце частку спраў сваім памочнікам.

БЛІЗНЯТАМ у гэтыя дні давядзецца шмат папрацаваць для таго, каб выканаць важнае заданне на службе, ад якога залежыць ваша далейшае прасоўванне па службовай лесвіцы. Актыўная пазіцыя пачынаючага бізнесмена дапаможа атрымаць прыбытак ад той здзелкі, якая здавалася вашаму дзелавому партнёру нявыгаднай справай. Пастарайцеся прытрымлівацца ў гэтыя дні дыеты.

Адносіны з партнёрамі па бізнесу прымусяць РАКА шукаць магчымасць для заключэння новых здзелак. Ваеннаслужачаму прапануюць новае, больш высокааплатнае месца службы. У гэтыя дні магчымы канфлікты з дзецьмі. Пастарайцеся зразумець іх пункт погляду, які, магчыма, пакажа вам з іншага боку новае пакаленне. Таксама пазбягайце ўжываць спіртное.

Зноў праявіць царственную мудрасць ЛЕЎ, які можа ў самых экстрэмальных сітуацыях знаходзіць правільнае рашэнне. У рэчышчы хатніх клопатаў некаторым давядзецца больш часу аддаць дзецям. Нечаканы вецер кахання занясе вас на нейкі час у свет жаданняў і мараў. Якімі салодкімі будуць гэтыя гадзіны, праведзеныя з каханай! Узаемнасць і цяпло веснавога сонца зноў напоўняць вас энергіяй жыцця, смела ідзіце наперад — вас чакае ўдача.

Акружаная паклоннікамі ДЗЕВА ўсё менш часу аддае справам на службе. Асцерагайцеся стаць цэнтральнай дзеючай асобай адной любоўнай прыгоды. У той жа час будзьце вельмі далікатнымі ў гэтыя дні з людзьмі старэйшага ўзросту. У падпісанні выгаднага кантракта вам дапаможа вопытны ў гэтых справах эксперт.

Напружаная праца прынясе ШАЛЯМ добрыя весткі. Чарговае павышэнне па службе зможа атрымаць маладая прывабная жанчына. Ваш канкурэнт па бізнесу не вытрымае гонкі і здасца на літасць пераможцы. Не выключана, што вы зможаце адшукаць новыя крыніцы папаўнення свайго бюджэту. Самы лепшы сябар акажа вам неацэнную паслугу. У гэтыя дні вам неабходна больш бываць на свежым паветры, а таксама не перагружацца справамі.

СКАРПІЁНУ ў гэтыя дні неабходна ўстрымацца ад здзелак у бізнесе і не заводзіць новых знаёмстваў. Памятайце, што цяпер вы можаце апынуцца ў пастцы вопытных махляроў. Вашы супрацоўнікі заўважаюць у вас дыктатарскія замашкі. Будзьце асабліва ўважлівымі ў адносінах з маладшым пакаленнем, улічваючы, што яны не заўсёды могуць правільна зразумець вашы намеры і метады ў выхаванні.

СТРАЛЕЦ у гэтыя дні займецца абмеркаваннем важных пытанняў. Вы зможаце залажыць аснову вельмі выгаднай здзелкі. Новыя партнёры па бізнесу запатрабуюць ад вас аддачы. Астролагі раяць маладому чалавеку, які паступіў на новае месца службы, праявіць больш гібкасці ў адносінах да калег, а жанчынам раяць устрымацца ад моцных напояў у гэтыя дні.





Згубленае пасведчанне аб праве на льготы № А-000551, выдадзенае на імя **Міхальчышынай Веры Васільеўны,** лічыць **несапраўдным.**

Згубленае пасведчанне інваліда ІІІ-й групы з дзяцінства № 0004675 серыі 08, выдадзенае на імя **Крата Уладзіміра Уладзіміравіча,** лічыць **несапраўдным.**

Згубленае пасведчанне інваліда III гр. серыі 07 № 059162, выдадзенае на імя **Захаркевіч Валянціны Іванаўны**, лічыць **несапраўдным.**

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 5. Антыфрыкцыйны сплаў для падшыпнікаў. 7. Невялікае сузор'е Паўднёвага паўшар'я. 10. Салодкі харчовы прадукт. 11. Доўгія раструбы ў пальчатак. 12. Перыяд іграквога часу ў футболе, гандболе і г.д. 13. Тлушчавае адкладанне ў целе жывёлы. 14. Самагучны музычны інструмент. 17. Хімічны элемент, метал. 18. Кандытарскі выраб на аснове пладоў какава. 21. Радыёлакацыйная ўстаноўка. 22. Грашовая ўзнагарода за твор мастацтва, літаратуры, навукі. 23. Старана прамавугольнага трохвугольніка. 25. Форма вытворчых адносін у канцы існавання Рымскай імперыі. 28. Адзін з галоўных персанажаў «Трох мушкецёраў» А. Дзюма. 31. Аўтар п'есы «Сірано дэ Бержэрак». 34. Папера з цісненым узорам на паверхні. 35. Званы вечар без танцаў. 36. Французскі камедыёграф XIX ст. 37. Архітэктурнае завяршэнне фасада будынка, порціка, каланады. 38. Возера на Далёкім Усходзе Расіі. 39. Свяшчэнная кніга мусульман.

**Па вертыкалях:** 1. Ладава-меладычная мадэль у арабскай, іранскай, турэцкай музыцы. 2. Торг, рынак тавараў, які наладжваецца перыядычна ў вызначаным месцы. 3. Электронная лямпа. 4. Вяленая на сонцы рыба. 5. Дзяржава ў Паўднёвай Азіі. 6. Частка машыннага слова ЭВМ. 8. Конусападобны сеткавы мех для лоўлі рыбы. 9. Тыповая расліна Мексікі. 15. Паўднёваамерыканскі музычны інструмент. 16. Абавязковы плацеж. 17. Адзін з фільмаў, музыку да якога напісаў І. Дунаеўскі. 19. Штучна створаны вадавод. 20. Славутая італьянская кінаактрыса. 24. Адна са стадый учынення злачынства. 25. Драпежная птушка. 26. Галоўны герой серыі кніг Бероўза. 27. Савецкі вучоны ў галіне мостабудавання і зваркі. 29. Струнны музычны інструмент народаў Азіі. 30. Раман А. Франса. 32. Зямля ФРГ. 33. Птушка лясоў Амерыкі з вялікай шчарбатай дзюбай.

**Склала Вера СІНЯКОВА.**
*г. Орша.*

### ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**Крыжаванка-пераклад (27 красавіка). Па гарызанталях:** 5. Фіранка. 6. Рахунак. 8. Шляк. 9. Журба. 10. Гулі. 13. Агляд. 14. Упікі. 18. Збан. 19. Намер. 20. Паля. 23. Кавалак. 24. Крумкач. **Па вертыкалях:** 1. Відэлец. 2. Кнот. 3. Сход. 4. Памылка. 7. Нарыс. 11. Ляляк. 12. Дзіда. 15. Цабэрак. 16. Язмін. 17. Кілішак. 21. Шалі. 22. Друз. **Вакол літар:** А. Скарынка. Б. Атожылак. В. Здагадка. Г. Гасцінец. Д. Скупянда. Е. Кіраўнік. Ж. Канюшына. З. Гаспадар. І. Накрыўка.

**Галаваломка (27 красавіка).** Прымаўка такая: «Найсмачнейшы хлеб — ад сваёй працы».

## Віншаванні

***Віншуем з 33-годдзем Туміловіча Анатолія. Здароўя, спакою, цяпла і дабра табе, любы.***
**Жонка Алена, дзеці.**

Віншуем дзяцей: Аляксандра, Леаніда, Ліду з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, радасці.
**Мінск, бацькі Крантоўскія.**

*Дарагую цётачку Янчанка Еву Змітраўну з в. Малажын Брагінскага раёна віншуем з днём нараджэння. Усіх зямных даброт табе.*
**Пляменніцы і ўнук Сяргей.**

***Віншую дарагую сястру Хоха Ніну з днём нараджэння і з 25-годдзем вяселля. Жадаю моцнага здароўя, радасці і шчасця ў сям'і.***
**Гродна, Аня.**

Віншуем Трайковіча Віктара з днём нараджэння.
*Пусть хорошее только множится*
*и удачно все в жизни сложится.*
**Трайковічы (брат, жонка).**

*Віншуем Віктара Часлававіча Міхайловіча з днём нараджэння. Жадаем шчасця, радасці, удачы ва ўсіх справах.*
**Мама, тата, жонка, сястра.**

***Каханай жонцы і маці Трайковіч Людміле***
*Дзень нараджэння твой святкуем,*
*Жадаем радасці ў жыцці,*
*Табе найлепшага жадаем,*
*Цябе кахаем, абдымаем —*
**муж, сыны.**


**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2193.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12